21 снежня 2018 | № 47 (610)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Зарабіць на Калядах
Стар. 9











# Беларусь прыняла ўльтыматум?



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Вынікі галасавання Беларусі на пасяджэнні Генасамблеі ААН адносна мілітарызацыі Расіяй Крыму выглядаюць як спроба залагодзіць «старэйшага брата» пасля ўшчуванняў.**

Нагадаем, 17 снежня Генасамблея ААН ухваліла праект украінскай рэзалюцыі аб мілітарызацыі Расіяй Крыму, Чорнага і Азоўскага мораў. У ёй утрымліваецца настойлівы заклік да Масквы вывесці яе ўзброеныя сілы з Крыму і спыніць акупацыю ўкраінскіх тэрыторый, а таксама асуджаецца напад Расіі на ўкраінскія караблі ў Керчанскім праліве. 66 краін прагаласавалі за рэзалюцыю, 19 — супраць, 66 — устрымаліся. Сярод тых, хто падтрымаў дакумент, — ЗША, Вялікабрытанія, Германія, Францыя, Італія, Іспанія, Ізраіль, Турцыя, Польшча, Японія. Супраць выступілі Арменія, Балівія, Беларусь, Бурундзі, Венесуэла, Зімбабвэ, Іран, Камбоджа, Куба, КНДР, Лаос, М'янма, Нікарагуа, Паўднёвы Судан, Расія, Судан, Сірыя, Сербія, Узбекістан.

Як зазначае журналіст Дзяніс Івашын, гэта ўсяго толькі «пазіцыя дзяржаўных службоўцаў аўтарытарнага і антыбеларускага рэжыму. Яна абсалютна не адлюстроўвае погляды і перакананні пераважнай большасці беларусаў». Вось толькі «пераважная большасць беларусаў» зноў трапіла ў сітуацыю, калі робяць «яны», а адбіваецца гэта на ўсіх нас. Таму не варта скідваць з рахункаў сур'ёзнасць таго, што адбылося.

Беларусь раней пазіцыянавала сябе як краіну-міратворца і на афіцыйным узроўні старалася не займаць ніводзін з бакоў расійска-ўкраінскага канфлікту. А вось цяпер, фактычна, выступіла супраць падтрымкі суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны і ўхваліла расійскую акупацыю ўкраінскіх земляў. Такі каштоўны для беларускіх уладаў імідж нейтральнага суседа быў разбураны адным націсканнем кнопкі на пульце для галасавання.

Што прымусіла беларускае кіраўніцтва пайсці на такі крок? Па адказ далёка хадзіць не трэба. 13 снежня прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў, выступаючы ў Брэсце на пасяджэнні Савета міністраў Саюзнай дзяржавы, недвухсэнсоўна даў зразумець, што Расія гатовая кампенсаваць Беларусі страты ад падатковага манеўру, фактычна, у абмен на нашу незалежнасць. «Расія гатовая і далей прасоўвацца па шляху будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, уключаючы стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра, адзінай мытнай службы, суда, падліковай палаты», — заявіў Мядзведзеў.

Што значыць больш шчыльная інтэграцыя з Расіяй, думаю, тлумачыць не трэба: шчыльней толькі адмова ад дзяржаўнага суверэнітэту.

А тут яшчэ расійскі амбасадар Міхаіл Бабіч падліў алею ў агонь, распавёўшы ў інтэрв'ю расійскаму агенцтву ТАСС пра эканамічныя перспектывы расійска-беларускіх адносін.

«Калі ідзе размова пра тое, што цана на газ у Беларусі павінна быць як у Смаленску, трэба разумець, што ў Расіі працуе складаная мадэль перакрыжаванага субсідавання, у якой удзельнічаюць розныя суб'екты прамысловасці, эканомікі, гаспадарання, якія знаходзяцца ў розных геаграфічных зонах. І вось гэтая перакрыжаваная мадэль у межах расійскага заканадаўства фармуе цану ў Смаленску 70 доляраў. Але гэта не значыць, што такі яе сабекошт. Хіба нашы калегі гэтага не ведаюць? Напэўна, ведаюць, але чамусьці не хочуць улічваць пры падрыхтоўцы сваіх прапаноў», — сказаў Бабіч.

> **Што значыць больш шчыльная інтэграцыя з Расіяй, думаю, тлумачыць не трэба**

«Калі сённяшні ўзровень кансалідаванай падтрымкі Расіяй эканомікі Рэспублікі Беларусь складае 4,0–4,5 мільярды долараў штогод, то гэты новы пакет, які прадугледжвае патэнцыйнае зніжэнне цаны на газ да ўзроўню Смаленска, кампенсацыю па падатковым манеўры, роўных умоў падтрымкі прамысловасці і іншае, можа скласці яшчэ каля 3–4 мільярды долараў. У гэтай сітуацыі аказваць падтрымку па нейкіх паняційных сыравінных мадэлях проста немагчыма. Гэта будзе ў рамках дзеючага прававога поля вельмі сумнеўна і эканамічна неабгрунтавана. Таму прэзідэнты дзвюх краін і закладвалі адпаведныя механізмы ў дагавор, каб гэтую інтэграцыйную мадэль рэалізаваць», — падсумаваў расійскі амбасадар.

Калі вяртацца да вынікаў галасавання Беларусі на пасяджэнні Генасамблеі ААН адносна Крыму, то на гэтым тле яны выглядаюць як спроба залагодзіць «старэйшага брата» пасля ўшчуванняў. І хаця на момант напісання гэтага матэрыялу ніякіх афіцыйных заяў адносна ўшчыльнення інтэграцыйных працэсаў з Расіяй яшчэ не прагучала, галасаванне Беларусі супраць вываду расійскіх войск з акупаванага Крыму можа яскрава сведчыць пра яго пачатак.

Канешне, беларускія ўлады, якія, па ўсім відаць, пакуль яшчэ самі знаходзяцца ў разгубленасці ад прыведзеных вышэй заяў з расійскага боку, будуць выкарыстоўваць усе спосабы, каб выйсці з «няёмкага становішча». Магчыма, пры дапамозе чарговага гандлю, балансавання з усходу на захад і новых абяцанняў на нейкі час удасца захаваць уяўную незалежнасць без павелічэння кошту на газ. Але палітолагі ўжо прадказваюць нашай краіне адзін з некалькіх варыянтаў немінучай новай рэальнасці: альбо без зніжак, альбо без незалежнасці.



Калаж durdom.in.ua.by

Працяг тэмы на стар. 4 »




Фота www.belaruspartisan.by

# Акт вандалізму ў Курапатах

**Невядомыя вандалы надрапалі шасціканцовыя зоркі Давіда на мемарыяльнай шыльдзе, усталяванай на афіцыйным памятным знаку ў Курапатах.**

Пра гэта на сваёй старонцы ў фэйсбуку распавяла адна з аўтараў афіцыйнага памятнага знаку Вольга Нячай. «Ну што, спадары нацыяналісты, камуністы, фашысты, экстрэмісты і іншыя РНЕшнікі... Чыіх рук справа? p.s. Спадары праваахоўнікі, вы там за павязаны шалік адміністрацыйку заводзіце, можа неяк і тут надрэнна было б? А ўнутраны пасыл паведамлення дык увогуле на крымінал цягне...» — напісала Нячай.

Гэта далёка не першы выпадак вандалізму ў Курапатах. Неаднойчы валілі і шкодзілі крыжы, у тым ліку металічны крыж памяці палякаў, расстраляных у Курапатах (гэты крыж быў усталяваны жыхарамі Мінска ў 1994 годзе). Нават Крыж Пакутаў, які стаіць сёння, — ужо не той, што ўсталявалі ў 1989 годзе.

Але больш за ўсё цярпіць лава Біла Клінтана, усталяваная ў гонар візіту ў Курапаты амерыканскага прэзідэнта. Як распавядала Валерыя Чарнаморцава, з 1994 года яна была пашкоджаная 21 раз!

Пры гэтым міліцыя не складала пратаколы на хуліганаў, нават калі атрымлівалася схапіць іх за руку. Таму спадзявацца на тое, што гэтым разам вандалы будуць знойдзеныя і пакараныя, наўрад ці выпадае.

Пазней у Курапаты для праверкі выехаў нарад міліцыі з Бараўлянаў. Матэрыялы праверкі мемарыяльнага знаку ў Курапатах, праведзенай 18 снежня супрацоўнікамі Бараўлянскага аддзелу міліцыі, перададзеныя ў аддзел Следчага камітэту Мінскага раёна.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Сядзіба БНФ просіць дапамогі

**У снежні 2010 года Сядзіба БНФ дапамагла сотням арыштаваных — офіс БНФ стаў цэнтрам збору рэчаў і грошай для пацярпелых за Плошчу–2010. Цяпер Сядзібе БНФ самой патрэбная дапамога.**

Адразу ж пасля 19 снежня Сядзіба БНФ, якая на той час месцілася на вуліцы Варвашэні (праспект Машэрава), зрабілася асноўным цэнтрам збору дапамогі для арыштаваных. Менавіта тут сябры БНФ ды іншыя грамадскія актывісты збіралі звесткі пра зняволеных, арганізоўвалі збор і дастаўку рэчавых перадачаў арыштаваным на Акрэсціна, сустракалі вызваленых, дапамагалі ім і іх сем'ям інфармацыяй і падтрымкай.

Дзякуючы народнай падтрымцы пасля высялення з Машэрава-Варвашэні Сядзіба БНФ аднавіла працу па новым адрасе — ад 2011 года яна месціцца на вуліцы Чарнышэўскага. Штогод дзясяткі арганізацый ладзяць у цяперашняй Сядзібе БНФ культурніцкія, моладзевыя, дабрачынныя імпрэзы, канцэрты (у тым ліку тых творцаў, якія трапляюць у «чорныя спісы»), выставы, прэс-канферэнцыі, з'езды дэмакратычных рухаў. У час узмацнення рэпрэсій Сядзіба БНФ робіцца адзіным месцам, дзе грамадскасць можа вольна праводзіць свае імпрэзы.

У сувязі з недахопам ахвяраванняў на канец 2018 года ўтварылася запазычанасць па арэндзе. Цягам лістападу атрымалася сабраць палову ад неабходнай сумы, аднак калі да канца года не будзе сабрана яшчэ 14 тысяч рублёў — Сядзіба БНФ можа зноў пазбавіцца памяшкання.

Восем гадоў таму збор грошай і рэчаў на Сядзібе БНФ дапамог сотням людзей — цяпер дапамога патрэбная самой Сядзібе БНФ.

Сядзіба заклікае ўсіх беларусаў дапамагчы грашовымі ахвяраваннямі на працяг арэнды памяшкання і ліквідацыю наяўных запазычанасцяў. Пералічаць сродкі для аплаты можа любы грамадзянін Беларусі. Зрабіць гэта можна праз АРІП і наўпрост на банкаўскі рахунак Грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне».

**Паводле прэс-рэлізу**

# «Парвалі жылы падпахамі, утыркалі іголкі пад пазногці»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Бацькі зняволеных і грамадскія актывісты прыйшлі ў Дэпартамент выканання пакаранняў, каб выказацца супраць катаванняў вязняў у беларускіх турмах.**

Раніцай 18 снежня каля будынка ДВП у Мінску сабраліся грамадскія актывісты і некалькі бацькоў зняволеных. Яны прыйшлі, каб трапіць на прыём да кіраўніцтва Дэпартамента выканання пакаранняў ды пакінуць свае звароты.

— Першае наша патрабаванне — спыніць здзекі і катаванні ў нашай пенітэнцыярнай сістэме, а другое — стварыць грамадскае назіранне з удзелам міжнародных структур, бо мы проста не маем кантролю над тым, што адбываецца, — кажа рэжысёр і грамадская актывістка Вольга Нікалайчык.

Яна падрыхтавала калектыўны зварот ад грамадзянскай супольнасці, дзе сказана, што грамадзяне Беларусі абураныя здзекамі і катаваннямі людзей у турмах краіны.

— Мы патрабуем спыніць гэтыя здзекі і катаванні, яны нагадваюць пра сталінскія рэпрэсіі новага часу. Гэта страшна. Мы хочам нагадаць, што за гэтыя катаванні давядзецца несці адказнасць перад міжнароднай супольнасцю.

Сярод прысутных быў і Юрый Светчыкаў, бацька Расціслава Светчыкава, якога асудзілі на 23 гады зняволення за саўдзел у забойстве, якога, па словах бацькі, ён не здзяйсняў. Хлопец быў кіроўцам у бізнесоўца, і аднойчы, заехаўшы да яго, знайшоў яго забітым, а таксама забойцу, які загадаў яму дапамагчы пазбавіцца ад цела, пагразіўшы ў выпадку адмовы забіць самога Расціслава і яго сям'ю.

Па словах бацькі, за два гады ён не меў ніводнага спаткання з сынам. Цяпер Расціслаў Светчыкаў адбывае пакаранне ў жодзінскай турме, і на яго аказваецца ціск з боку аператыўнікаў. Калі Расціслаў знаходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання Мінскага раёна, яму адзявалі на галаву мех, зламалі вуха, парвалі жылы падпахамі ад падвешванняў, утыркалі іголкі пад пазногці... Больш за тое, на яго пагражаюць павесіць яшчэ адно забойства. Бацькі зняволенага дамагаюцца пераводу сына ў СІЗА №1.

— Яго збілі ў ізалятары часовага ўтрымання Мінскага раёна, у яго пераломм вуха. Хто яго біў — гэта ўсё зафіксавана. Мы пісалі і кіраўніку дзяржавы, і ў пракуратуру, але прыйшоў адказ, што праведзена праверка і што ўсё там у парадку. Цяпер сын у Жодзіне, у яго правае вуха не чуе, пачалося запаленне на левае вуха. Але спецыялістаў там няма, таму я напісаў заяву, каб майго сына перавялі ў СІЗА №1 для далейшага лячэння, — кажа бацька зняволенага Юрый Светчыкаў.

Маці беларускага добраахвотніка ва Украіне Тараса Аватарава Людміла Поспіх прыйшла на асабісты прыём да Івана Мысліцкага, першага намесніка начальніка Дэпартамента.

— Я не атрымліваю лістоў ад сына, паштоўкі прыходзілі раз на месяц, апошні званок быў 7 снежня. Тады ён сарваўся і стаў крычаць: «Мама, я цябе прасіў!» Прасіў, каб я звярнулася наконт яго пераводу ў іншую калонію. Я хачу паведаміць, што майму сыну пагражаюць, што яго заб'юць, — гэта ўстаноўка з боку адміністрацыі калоніі. Гэтую інфармацыю я атрымала праз інтэрнэт, і сын яе пацвердзіў, напісаў пра бяссонныя ночы, — распавяла жанчына.

На прыёме яе запэўнілі, што правядуць праверку і што яе сыну нічога не будзе пагражаць.

Бацькі і грамадскія актывісты пакінулі ў Дэпартаменце выканання пакаранняў асабістыя і калектыўны зварот. Апошні таксама збіраюцца накіраваць у міжнародныя структуры.

# «Разумеем, палітыкай патыхае»

Вольга БУРАЯ

**«Салідарнасць» сабрала цікавую рэакцыю расійскіх журналістаў, што былі з прэс-турам у Беларусі.**

Нягледзячы на тое, што заключны фрагмент прэс-тура (прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі) адбыўся яшчэ ў пятніцу, многія яго ўдзельнікі дзяліцца ўражаннямі з аўдыторыяй не спяшаюцца.

Аднак частка блогераў і журналістаў ужо апублікавалі свае матэрыялы, і ў іх не абышлося без цікавых эпізодаў. Блогер Дзмітрый Бердасаў у ліку іншага сфатаграфаваў, як выглядае прыбіральня ў Палацы незалежнасці: «Усё вельмі проста, без ніякіх празмернасцяў».

Блогера Андрэя Румянцава ўразіла сістэма праходу на тэрыторыю рэканструяванага стадыёна «Дынама». «У адрозненне ад нашай складанай і няўручнай сістэмы пропуску, тут усё вельмі проста. Як гаворыцца, зроблена для людзей», — адзначыў блогер. Тым не менш, беларуская заўзятары якраз моцна незадаволеныя надглядам на ўваходзе ў арэну.

Уразіла блогера і беларуская чорная ікра. Гэта стала магчымым дзякуючы прэзентацыі і дэгустацыі ў ЗАТ «ДГ-Цэнтр» ў Фаніпалі (гандлёвая марка ADMIRAL HUSSO). Дарэчы, на сайце прадпрыемства слоік чорнай ікры масай 150 грамаў прадаюць па цане 245 рублёў.

Блогеру таксама спадабалася выступленне кіраўніка Беларусі: «Аляксандра Рыгоравіча я, напэўна, мог бы слухаць і дзесяць гадзін запар, настолькі ён цікава і, галоўнае, без залішняй афіцыяльнасці распавядае аб становішчы спраў у Беларусі і на сусветнай арэне».

Блогер Аляксандр Усольцаў пазайздросціў жыхарам Віцебска: «Не магу не звярнуць увагу на сучаснае чараўніцтва: праз шырокую вуліцу Леніна зроблены нармальны пераход для людзей, тут не сталі заганяць пешаходаў пад зямлю, а абсталявалі нармальны, добра асветлены наземны пераход, ды яшчэ і для пешаходаў дадалі палосы, якія змяняюць колер у залежнасці ад святла светлафора. Усё лагічна, зразумела, даступна ўсім, каму складана ці немагчыма спускацца па лесвіцах. Спадзяюся, калі-небудзь такія пераходы з'явяцца і ў Маскве на Цвярской».

Ігара Ягубкава, які шмат піша пра прамысловыя прадпрыемствы, уразіла зусім іншае. «ААТ "Мінскі завод колавых цягачоў" — гэта проста бомба, вельмі круты завод, які ён магутны і прыгожы! Хоць канапавыя эксперты ўсё роўна будуць крычаць, што гэта я ўсё ў фоташопе намаляваў, рэальнасць іншая... Ён распрацоўвае і выпрабляе ўнікальныя транспартныя рашэнні для перавозкі цяжкіх грузаў па дарогах. Хаця, калі шчыра, іх машыны могуць праехаць і там, дзе і дарог няма».

Здалося, што блогер нават спачувае беларускаму боку: «Прызнаюся, у іх малочка вельмі смачная, шчыра кажу. Не буду хаваць, не ўсю іх прадукцыю зараз пускаюць у Расію, але мы ж разумеем, што тут у тым ліку і палітыкай патыхае, але гэта зусім іншая гісторыя...»

А галоўны рэдактар «Владимировских ведомостей» Ігар Яфрэмаў у сваёй публікацыі шмат месца надаў тлумачэнню перад калегамі: «Шмат хто з "незалежных" калегаў упікне: маўляў, у колькі мая паездка абышлася бюджэту вобласці і якая ад яе карысць? Каб спыніць усялякія размовы, паведамляю: для таго, каб з'ездзіць у Мінск, я ўзяў свой законны адпачынак. Трансфер Уладзімір—Масква—Уладзімір аплачваў сам. Усе астатнія выдаткі ўзяў на сябе прымаючы бок».

**Паводле gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Думаць пра будучыню

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На тыдні ўсе згадвалі даўно замшэлую «Саюзную дзяржаву», спрэчкі Лукашэнкі з Пуціным. Але нам трэба жыць далей. І пакрысе вымалёўваецца, паводле якіх правілаў мы будзем жыць у 2019 годзе.**

Адно скажу адразу, каб супакоіць тых, хто пачаў панікаваць з нагоды «інтэграцыі» ледзь не ў наступным годзе. Бо Палата прадстаўнікоў прыняла «выпраўлены і дапоўнены» закон аб бюджэце Беларусі на 2019 год.

Дакумент практычна не адрозніваецца ад першапачатковага варыянту, які з'явіўся ў адкрытым доступе 55 дзён таму, хаця менавіта за гэтыя амаль два месяцы адбылася тая самая спрэчка наконт кошту нафты і газу.

Нягледзячы на непрыемныя навіны з Расіі, бюджэт застаецца прафіцытным. Больш за тое: прафіцыт захоўваецца ў тым жа аб'ёме: каля 1,7 мільярда рублёў. Даходы і выдаткі бюджэту цудоўным чынам выраслі (а не скараціліся, як можна было чакаць) на аднолькавую суму.

Больш за ўсё павялічыліся выдаткі дарожнага фонду: адразу на 18 мільёнаў рублёў. Грошы павінны пайсці на «будаўніцтва і рэканструкцыю аўтамабільных дарог».

Гэта крута і класна: мы развіваем транзітны патэнцыял дзяржавы. Але ў мяне узнікаюць два пытанні. Па-першае, хацелася б ведаць, у якім напрамку мы развіваем дарогі. МКАД-2 фактычна дабудавалі. У фінале — траса на Гродна, адзіная, якая заставалася ў гэтым годзе «недамадэрнізаванай». Хаця я два разы ездзіў па ёй і бачыў, што працы там вядуцца даволі інтэнсіўна. Па-другое, «выдаткі дарожнага фонду», па ідэі, пакрываюцца так званым «дарожным зборам». Гэты збор аўтааматары плацяць як дазвол транспартнага сродку ўдзельнічаць у руху. Апроч таго, калі ў 2000 годзе ліквідавалі «дарожны збор», яго замянілі акцызамі на бензін, якія павінны былі ісці на развіццё дарог. А зараз «дарожны збор» яшчэ і ў бюджэт уключаны?

Атрымліваецца, за беларускія дарогі даводзіцца плаціць тройчы? Акцыз на бензін, «дарожны збор» і яшчэ падаткі ў бюджэт? Выбачайце, але на такіх умовах я не згодны набываць беларускі «Джылі», дый любое аўто. Гэта ж абдзіралаўка, не?

Войску перападзе на 14,5 мільёна рублёў больш. У кантэксце заяваў расійскіх чыноўнікаў — падтрымліваю дзвюма рукамі. Галоўнае, каб гэтыя грошы сышлі на абароназдольнасць краіны, а не на «замазванне» фактаў дзедаўшчыны, як па «справе Коржыча».

На 2,4 мільёна рублёў больш атрымаюць дзеячы культуры і мастацтва. Таксама — абедзвюма рукамі «за». Толькі размяркуйце іх энтузіястам, мэтава — Курэйчыку, Дар'і Жук... У нас багата таленавітых людзей. Гэта лепш, чым у чарговы раз «закапаць» сродкі ў «Беларусьфільм», ад якога (я не спецыяліст, але не чуў) апошнім часам не было нармальнага выніку.

Цікава, што выдаткі на правядзенне выбараў і рэферэндумаў не змяніліся. У «невыбарны» 2019 год Цэнтрвыбаркам будзе каштаваць беларусам 538 тысяч рублёў. Гэта няшмат — на правядзенне выбараў (або рэферэндуму) трэба нашмат больш. Але гэта не паказчык таго, што «вакханаліі» не будзе: бюджэт можа быць скарэктаваны.

Яшчэ адна цікавая навіна: як заявіў у аўторак намеснік кіраўніка Мінфіна Дзмітры Кійко, указ №488 «Аб некаторых мерах па папярэджанні незаконнай мінімізацыі сум падатковых абавязацельстваў» адменяць з 1 студзеня 2019 года.

> **Кантралюючыя органы больш не будуць ганяцца за прывідным мінулым, успамінаючы, з кім кампаніі працавалі шмат гадоў таму, і караць за здзелкі з «несумленнымі» партнёрамі. Бізнесу будзе лягчэй дыхаць, і працей укладваць свае сілы ў эканоміку**

Фактычна, гэта азначае адмену адказнасці за «ілжэпрадпрымальніцтва». Рэестр «ілжэпрадпрымальнікаў» перастануць папаўняць з 1 студзеня. Кантралюючыя органы больш не будуць ганяцца за прывідным мінулым, успамінаючы, з кім кампаніі працавалі шмат гадоў таму, і караць за здзелкі з «несумленнымі» партнёрамі. Бізнесу будзе лягчэй дыхаць, а значыць, працей укладваць свае сілы ў эканоміку.

Тым не менш... «У кожным канкрэтным выпадку, калі з'явяцца падазрэнні па дзеяннях з рызыкоўным суб'ектам гаспадарання, будуць вывучацца ўсе акалічнасці. І карэктаваць падатковую базу будуць толькі на канкрэтную здзелку», — дадаў намеснік кіраўніка Мінфіна.

Таму, як лічыць эканаміст Леанід Фрыдкін, прадпрымальнікам усё яшчэ рана радавацца. У пункт 4 артыкуле 33 прынятай у першым чытанні Палатай прадстаўнікоў новай рэдакцыі Падатковага кодэксу ўключаны нормы, якія даюць кантралюючым органам шырокія магчымасці барацьбы з парушэннямі ў сферы падаткаабкладання.

«У нечым гэта падобна на нормы 488-га ўказу, толькі гэта будзе рабіцца не шляхам рассылкі «лістоў шчасця» пра тое, што прадпрымальнік калісьці меў справу з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі, а па выніках праверкі. З аднаго боку, гэта вялікі плюс, таму што будзе менш магчымасцяў для адвольных тлумачэнняў. Але пытанне з нормай пра мэту здзяйснення гаспадарчай аперацыі — трактаваць мэту аперацыі можна досыць шырока. І пры наяўнасці творчага падыходу можна кожную другую аперацыю разглядаць як накіраваную на сыход ад выплаты падаткаў. Даказваць жа, што мэтай здзяйснення гаспадарчых аперацый не з'яўлялася ўхіленне ад выплаты падаткаў, будзе праблемна», — адзначае Леанід Фрыдкін.

І яшчэ цікавостка. З новага года насельніцтва будзе пакрываць выдаткі на ЖКП у поўным аб'ёме, акрамя цеплазабеспячэння, заявіў на тыдні першы намеснік міністра фінансаў Юрый Селіверстаў.

«Для субсідавання жыллёва-камунальных паслуг прадугледжваецца 541 мільён рублёў з улікам павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва на пяць долараў у эквіваленце. Меркаванае павышэнне тарыфаў дасць магчымасць забяспечыць з 1 студзеня 2019 года стопрацэнтнае пакрыццё затрат насельніцтвам па ўсіх паслугах, акрамя цеплазабеспячэння», — цытуе чыноўніка sb.by.

Мы наблізіліся да стопрацэнтнай аплаты паслуг. Такім чынам, «дармаедскі» дэкрэт, згодна з якім непрацуючых афіцыйна грамадзян абавяжуць з 2019 года поўнасцю аплачваць падагрэў вады, а з восені — ацяпленне, ператворыцца ў чарговы «пшык».

Але справа ў тым, колькі на гэты «дармаедскі дэкрэт» ужо было выдаткавана грошай? Стварэнне першага дэкрэту, другога, іх варыянтаў, электроннай базы так званых «дармаедаў» — і ўсё дзеля чаго?

Ведаю, дзеля чаго. Дзеля мемаў у інтэрнэце. Кшталту, «твой твар, калі афіцыйная колькасць беспрацоўных — працэнт, а ў базу дадзеных «дармаедаў» унесеныя 500 тысяч чалавек».

Па-мойму, можна гэтыя выдаткі скампенсаваць проста зараз, наўпрост выправіўшы ў адстаўку цэлае міністэрства працы і сацыяльнай абароны, якое гэты дэкрэт курыравала. Бо яны не займаюцца ані працай, ані сацыяльнай абаронай.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ганна Красуліна

**Высылкі Ганны Красулінай з Беларусі не адбудзецца. Такое рашэнне прыняў суд Маскоўскага раёна Мінска па яе скарзе.**

Красуліна — прэс-сакратарка Аб'яднанай грамадзянскай партыі, грамадзянка Расіі. УУС Маскоўскага раёна вырашыў выслаць яе з Беларусі на падставе трох адміністрацыйных парушэнняў, адным з якіх быў нібыта неаплачаны праезд у грамадскім транспарце.

Падчас суда Красуліна са здзіўленнем даведалася, што рашэнне па яе высылцы прымалася на падставе нейкіх таемных дакументаў, які адносяцца да «службовай таямніцы». Гэта робіць немагчымым паўнавартасную абарону Красулінай, бо яна проста не ведае, што ў тых дакументах.

У судзе адвакатка сказала адну істотную рэч. Калі рашэнне пра высылку Красулінай прымалася «ў інтарэсах грамадскай бяспекі», то той, хто вынес гэтае рашэнне, павінен даказаць, якую менавіта небяспеку нясе грамадзянін. Гэтага не было зроблена, не было дадзена ніякіх тлумачэнняў. Бачна, што ўсе высновы, якія зрабілі органы ўнутраных спраў адносна Красулінай, заснаваныя на здагадках».

Урэшце суд агучыў: «Скаргу Красулінай задаволіць. Рашэнне АГіМ аб высылцы адмяніць».

Некалькі дзён таму праваабарончая супольнасць Беларусі выступіла з заявай, у якой запатрабавала адмяніць усе раней вынесеныя рашэнні аб высылцы Ганны Красулінай з тэрыторый Беларусі і неадкладна спыніць працэдуру высылкі.

## Адам Міхнік

**Дысідэнт, легенда польскай «Салідарнасці», чалавек, які стаў сімвалам барацьбы з камунізмам, і заснавальнік аднаго з самых уплывовых выданняў Еўропы прыехаў у Беларусь.**



Адам Міхнік прыехаў у Мінск на прэзентацыю дакументальнага фільма «Міхнік: Будзь рэалістам, імкніся да немагчымага!» у рамках фестывалю WATCH DOCS Belarus і па запрашэнні Лятучага ўніверсітэта.

72-гадовы Адам Міхнік адмовіўся выступаць перад аўдыторыяй і адказваць на пытанні седзячы: «Я так шмат сядзеў, што цяпер пастаю».

«Падчас гэтага прыезду ў Беларусь я наведаў Курапаты. Я быў вельмі ўражаны ўсім, што ўбачыў там. Мне сказалі, што Лукашэнка за час свайго кіравання ні разу не бываў у Курапатах. Я шчыра не разумею, як такое магчыма! Усё, што я магу сказаць з гэтай нагоды: "Ганьба, спадар прэзідэнт!"» — сказаў ён.

Пры гэтым Міхнік не мае адназначнага адказу на пытанне, ці магчымы кампраміс грамадзянскай супольнасці Беларусі з Лукашэнкам. «Калі б я ведаў просты адказ на гэтае пытанне, думаю, я даўно б атрымаў Нобелеўскую прэмію. У свой час я ўбачыў магчымасць кампрамісу з Ярузельскім. Я ўбачыў у кампрамісе з камуністамі не толькі наш інтарэс, але цікавасць усёй Польшчы — і мы выкарыстоўвалі той шанец», — сказаў ён.

«Я ведаю адно: нельга лічыць, што ніякі кампраміс немагчымы ні пры якіх умовах. Таму што інакш адзіным адказам застаецца грамадзянская вайна. Я не магу цалкам выключыць сітуацыі, калі грамадскі кампраміс у інтарэсах Беларусі будзе адпавядаць інтарэсам Лукашэнкі. І калі вы ўбачыце такую сітуацыю, гэта адкрые новыя магчымасці», — лічыць ён.



## Міхаіл Гуцырыеў

**Меркаваны новы ўласнік мінскага футбольнага клубу «Дынама» Міхаіл Гуцырыеў у праграме «Дзённы разварот» на «Эхо Москвы» прызнаўся, што ніколі не купляў спартовыя клубы.**

«У нас ёсць людзі — купляюць клубы ў Вялікабрытаніі за мільярды долараў, у нас купляюць баскетбольныя клубы ў Амерыцы — гэта нармальна. І людзі купляюць і жывуць у Расіі», — распавёў ён.

Але Гуцырыеў сказаў: «Я не купляў ніякія клубы нідзе, я ніколі не ўкладваў у заходнае мастацтва. Таму што я жыву ў Расіі, я ўкладваю ў свае. Кожны сваім лёсам, сваімі грашыма распараджаецца так, як ён хоча. Я ніколі не ўкладваў у замежнае мастацтва. У нас ёсць сваё мастацтва, якое я развіваю».

Такім чынам, паводле чутак, адзіным магчымым інвестарам мінскага «Дынама» застаецца Віктар Пракапеня.

# Вялікі блеф Мядзведзева

Сяргей ПУЛЬША

**Што ў Пуціна на розуме, тое ў Мядзведзева на языку, прызвычаіліся думаць аналітыкі. Але наўрад ці ініцыятывы Мядзведзева, выказаныя на пасяджэнні Саўміна «Саюзнай дзяржавы» ў Брэсце 13 снежня, ажыццяўляльныя. Гэта, хутчэй, правакацыя з мэтай прааналізаваць ход грамадскай думкі ў Беларусі. І гэтая рэч, трэба адзначыць, была даволі ўдалай.**




Шмат хто (у тым ліку і вышэйшае кіраўніцтва Беларусі), успрынялі выказванні Мядзведзева як ультыматум: «Альбо вы інтэгруецеся ў Расію, альбо...» Насамрэч, пытанне так не стаяла.

## Што сказаў Мядзведзеў

Калі дэталёва разбірацца, што сказаў расійскі прэм'ер, то не ўсё так адназначна. Ён заўважыў, што для інтэграцыйных праектаў дзвюх краін ёсць два сцэнары. Два, а не адзін — уваходжанне ў склад Расіі ў межах «Саюзнай дзяржавы», які пачула большасць.

Гэтыя два сцэнары, па словах Мядзведзева, — кансерватыўны і прасунуты. Першы мае на ўвазе ўзаемадзеянне ў контурах Саюзнай дзяржавы, што створаная на сёння без павышэння ўзроўню інтэграцыі да межаў, усталяваных у дамове ад 8 снежня 1999 года. «Без фарміравання ўсіх інстытутаў, якія закладзеныя ў гэтую дамову. Пры гэтым, вядома, мы працягнем фарміраванне Еўразійскага эканамічнага саюза», — сказаў ён.

Больш прасунутым, па словах расійскага прэм'ера, бачыцца варыянт, заснаваны на павышэнні ўзроўню інтэграцыі, устаноўленага дагаворам ад 1999 года. Ён мае на ўвазе ўмацаванне ўзаемазалежнасці эканомік, магчымасць аказання дапамогі і падтрымкі ў саюзным будаўніцтве.

«Расія гатовая і далей прасоўвацца па шляху будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, уключаючы стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра, адзінай мытнай службы, суда, Падліковай палаты, у тым парадку, які прадугледжаны дамовай аб стварэнні Саюзнай дзяржавы ад 8 снежня 1999 года. У гэтым выпадку можна праводзіць і адзіную падатковую палітыку, палітыку ў галіне цэнаўтварэння, тарыфаўтварэння», — адзначыў Мядзведзеў.

Якія з гэтых варыянтаў выбраць — пытанне, якое трэба падымаць, на думку Мядзведзева, на саюзным Саўміне і на ўзроўні Вышэйшага дзяржсавета, на ўзроўні кіраўнікоў дзвюх краін.

То бок, тое, што выказванні Мядзведзева многія расцанілі як пагрозу страты незалежнасці для Беларусі, па вялікім рахунку, такім не было. Былі толькі «варыянты інтэграцыі». Канешне, у нечым гэта быў і ўльтыматум, але ўльтыматум у «мяккай форме». Кшталту, «мы гатовыя да рашучых дзеянняў, але можам і пакінуць усё, як ёсць».

Менавіта з гэтага ўзнікае ўражанне, што словы расійскага прэм'ера былі, кажучы сучаснай моваю, «закідонам». Мауляў, мы адсочым рэакцыю беларускага кіраўніцтва і грамадства на такія рэчы, і, зыходзячы з рэакцыі, будзем вырашаць, як дзейнічаць далей.

## Не прымусіла чакаць

Рэакцыя беларускай улады была на дзіва рашучай. Асабліва ўлічваючы тое, што праект «Саюзнай дзяржавы» — ідэя самога Аляксандра Лукашэнкі. Але 14 снежня на сустрэчы з расійскімі журналістамі ён заявіў, што суверэнітэт і незалежнасць Беларусі — гэта святое.

На яго думку, больш глыбокая інтэграцыя паміж краінамі ўяўляе пагрозу незалежнасці Беларусі. «Можна проста сказаць — атрымаеце нафту, але вы давайце разбурайце краіну і ўступайце ў склад Расіі». Пры гэтым ён сказаў, што, у любым выпадку, глыбокая інтэграцыя не павінна быць прымусам, і падкрэсліў, што яшчэ не было такой сітуацыі, каб Мінск і Масква не змаглі знайсці кампраміс па спрэчных пытаннях. «Калі нас хочуць падзяліць на вобласці і ўпіхнуць у Расію — гэтага не будзе ніколі», — заявіў ён.

Апроч гэтага Лукашэнка прайшоўся па пытаннях ваенных базаў, ядзернага прыкрыцця і гэтак далей. То бок, выклаў купу прэтэнзій і аргументаў, за кошт чаго Мінск можа «пагасіць» страты расійскага нафтавага «падатковага манеўру» (што, уласна, і выклікала канфлікт Мінска і Крамля, ды ўсю інтэграцыйную рыторыку).

Неяк, падчас шалу з «Саюзнай дзяржавай» напачатку 2000-х гадоў у Маскве я сустракаўся з вядомай расійскай дысідэнткай Валерыяй Навадворскай. І яна сказала рэч, якая падалася мне на той час неверагоднай: «Вы яшчэ пабачыце, як Лукашэнка пойдзе ў акопы з аўтаматам, каб бараніць незалежнасць Беларусі».

Зараз я думаю, што, калі б тады была нейкая «Бітва экстрасэнсаў», Валерыя Ільінічна яе б адназначна выйграла.

## За чый кошт?

Нагадаем яшчэ раз: канфлікт паміж Пуціным і Лукашэнкам распаліўся з-за грошай. Па дамове аб стварэнні ЕАЭС экспартныя пошліны за расійскую нафту, якая ідзе праз тэрыторыю Беларусі, пералічваюцца ў беларускі бюджэт. Расія вырашыла паступова скасаваць гэтыя пошліны, замяніўшы іх падаткам на здабычу карысных выкапняў. Беларусь у выніку губляе пад 300 мільёнаў долараў штогод (калі ідзе замена), і Масква пакуль не збіраецца гэтыя страты кампенсаваць.

А таму давайце падумаем: колькі каштуе інтэграцыя?

Мы ўжо неаднаразова пісалі, што Расіі гэтая «інтэграцыя аж да аб'яднання» наўрад ці выгадная. Як не выгадная яна і Беларусі. Беларусь страчвае на расійскім «нафтавым манеўры» 300–400 мільёнаў долараў штогод? Дык давайце зробім тое, на што «пакуль не пагаджаецца» Аляксандр Рыгоравіч, — выкацім на гэтую суму рахунак саюзніцы за ўтрыманне расійскіх ваенных базаў (а іх у нас дзве). Не прымаецца кошт на газ? Давайце разбярэмся з коштам на транзіт, і не толькі газу. У нас адзіная сістэма супрацьпаветранай абароны, якую таксама павінен нехта ўтрымліваць, — чаму мы бясплатна прыкрываем Маскву? Рассельгаснагляд не пускае ў Расію сухое малако? Дык самі расійскія вытворцы кандытарскіх вырабаў ад гэтага стогнуць — мы тут пры чым? І гэтак далей, далей, далей...

**Зараз я разумею фігуранта «справы патрыётаў» Мірaслава Лазоўскага, які казаў, што ён будзе адстойваць незалежнасць краіны нават (калі спатрэбіцца) са зброяй у руках, незалежна ад таго, хто будзе кіраўніком Беларусі**

А калі Мядзведзеў хоча «стварэнне адзінай мытнай службы, суда, Падліковай палаты», то спачатку можна падлічыць выдаткі — у колькі гэта абыдзецца самой Расіі? Беларусі, падаецца, такія органы не вельмі і патрэбныя — дык чаму мы павінны за гэта плаціць?

І ўжо зусім нягеглым выглядае патрабаванне «адзінага эмісійнага цэнтра». Пра гэта можна было казаць некалькі гадоў таму. І казалі ж, калі Лукашэнка настойваў на двух эмісійных цэнтрах — у Маскве і Мінску. Пуцін тады адрэзаў: «Мухі асобна, катлеты асобна».

Нешта падобнае мог бы сказаць зараз і беларускі кіраўнік. Сапраўды, які адзіны эмісійны цэнтр, калі адзін расійскі рубель каштуе тры беларускія капейкі?

А калі раптам уявіць (у стылі ненавуковай фантастыкі), што Лукашэнка раптам кажа: «Рабіце, што хочаце!». Інтэгруйцеся хоць да скону! Што выйграе Масква?

Як мінімум, «інтэгратарам» з Расіі давядзецца пагадзіцца на тое, на што яны не пагаджаюцца зараз, — забяспечыць расійскія кошты на нафту і газ для шасці беларускіх рэгіёнаў. Варта зазначыць, што гэтыя рэгіёны будуць датацыйнымі, прыбытак ад іх будзе мінімальны, а гэта — дадатковае ўліванне грошай. Аб'яднанне грашовых сістэм — таксама справа, па-першае, не танная, а па-другое, пагражае стабільнасці расійскага рубля. Бо забяспечыць больш за 9 мільёнаў чалавек расійскімі грашыма — тая яшчэ задача.

Грошы на ўтрыманне беларускага войска, беларускай міліцыі, новай мытні і новых памежнікаў, стварэнне новага адміністрацыйнага апарату, правядзенне выбараў па расійскіх законах... І гэта мы яшчэ не ўлічваем палітычных і геапалітычных наступстваў «больш шчыльнай інтэграцыі»...

Мне падаецца, аматары гэтай «шчыльнай інтэграцыі» проста не падлічвалі, у якія выдаткі выльецца іх праект. Расія гэта наўрад ці пацягне проста фінансава. Ці гэта сур'ёзна падарве яе эканамічную стабільнасць.

## Ці ўсё ж падлічылі?

Тое, што заява Дзмітрыя Мядзведзева была ўсяго толькі «прапрацоўкай глебы», ускосна пацвердзілі ў Крамлі. Неўзабаве пасля словаў расійскага прэм'ера, прэс-сакратар кіраўніка РФ Дзмітрый Пяскоў заявіў, што тэма інтэграцыі Расіі і Беларусі з наступным прэзідэнцтвам у адзінай дзяржаве Уладзіміра Пуціна на парадку дня не стаіць.

«Яна і не абмяркоўвалася, і пра гэта не ідзе ніякіх размоў», — сказаў Пяскоў, адказваючы на пытанне, ці разглядаецца ў Маскве варыянт аб інтэграцыі з Беларуссю, калі фактычна будзе створана адна дзяржава з адзінай валютай, якую пасля 2024 года ўзначаліць Пуцін. Гэта агучыла РІА «Новости».

Пры гэтым Пяскоў распавёў аб планах Крамля па пашырэнні інтэграцыі ў рамках «Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі». «Што да планаў па пашырэнні інтэграцыі ў рамках «Саюзнай дзяржавы», то гэтыя планы канцэптуальна прапісаныя ў тых дакументах, якія існуюць у арсенале дагаворна-прававой базы нашай Саюзнай дзяржавы», — сказаў Пяскоў.

Ускосна гэта азначае тое, што праект «Саюзнай дзяржавы» застаецца на тым жа ўзроўні, на якім ён існуе сёння. Бо для Беларусі больш важна, што там, у дамовах пра «Саюзную дзяржаву», пакуль не прапісана. А не прапісаны там адзіны кіраўнік, адзіны парламент, палітычная інкарпарацыя — прынамсі, гэта ўсё немажліва да таго часу, пакуль на рэферэндумах у абодвух краінах не будзе прынятая Канстытуцыя «Саюзнай дзяржавы».

## Вялікі блеф

Дык да чаго ж быў увесь гэты цырк? Хутчэй за ўсё, расійскі бок сапраўды «прамацаў глебу» — наколькі беларускае грамадства гатовае да «глыбейшай інтэграцыі». І адказ ім, хутчэй за ўсё, не спадабаўся.

Апроч таго, Лукашэнка мае намер сустрэцца з Пуціным 25 снежня. Галоўнай тэмай размовы стане абмеркаванне падатковага манеўру ў нафтавай сферы, паведамляюць афіцыйныя СМІ. Хутчэй за ўсё, бакі ў гэты калядны час абмяняюцца падарункамі і вырашаць пачаць абмеркаванне праблемных пытанняў «з чыстага аркуша». І гандаль працягнецца.

Але ўся гэтая сітуацыя ў чарговы раз паказала: з такім саюзнікам трэба порах трымаць сухім. І зараз я разумею фігуранта «справы патрыётаў» Мірaслава Лазоўскага, які казаў, што ён будзе адстойваць незалежнасць краіны нават (калі спатрэбіцца) са зброяй у руках, незалежна ад таго, хто будзе кіраўніком Беларусі: Лукашэнка ці нехта іншы.

# Катаванні і карупцыя: Алан Сміт пра ўмовы ў калоніі

Мікалай ДЗЯДОК

**Грамадзянін Вялікабрытаніі Алан Сміт, які пару месяцаў таму выйшаў на волю і з'ехаў на радзіму, працягвае распавядаць пра тое, з чым яму давялося сутыкнуцца ў ПК №3 «Віцьба», якую ён называе не інакш як «канцэнтрацыйны лагер №3».**




## Мабільныя тэлефоны размяркоўваюць аператыўнікі

***— У мяне шмат запісаных відэа. Я хачу публікаваць іх паступова (некаторыя ўжо апублікаваныя на старонцы Алана ў Фэйсбуку). Пасля майго вызвалення ў калоніі быў вялізны «шмон». Яны абшуквалі ўсё і ўсіх.***

Дарэчы, некаторыя вязні пасля першай публікацыі звязаліся са мной і казалі: «Малайчына!» Для іх было вельмі важна пабачыць праўду пра турэмныя парадкі ў газеце. Я думаю, што вы («Новы Час») — адзіныя, хто публікуе інфармацыю на паперы. А інакш пабачыць яе вязні не могуць — большасць інфармацыі праходзіла анлайн.

***— Але мабільны тэлефон у калоніі — забароненая рэч. Як здарылася, што ён у вас быў?***

— Адзін з аператыўнікаў быў сярод тых, хто праносіў для вязняў тэлефоны, прадаваў іх. Але з папярэдняй дамовай: не кантактаваць з журналістамі, нічога не публікаваць. Але як толькі яны даведаліся, што я карыстаюся ім, адразу адабралі ўсе мабільнікі ў вязняў. Тады я сам пайшоў да начальніка калоніі Старавойтава і сказаў: «Я выкарыстоўваю мабільны тэлефон». Ён кажа: «Я табе не веру». А я яму: «Магу яго зараз прынесці, а магу пазваніць жонцы і сказаць, каб яна тое-сёе апублікавала». Гэта вельмі іх напужала.

Каб упэўніцца ў фактах карупцыі, я нават спецыяльна набыў адмысловыя таблеткі, якія ўжываюць спартсмены, — нешта для росту цягліц. Я заплаціў грошы — і сапраўды атрымаў іх. Я трымаў іх у сваіх руках, паказваў начальніку атрада.

***— Лічыцца, што ў зняволеных грошы — цыгарэты...***

— У віцебскай калоніі кожны вязень абавязаны плаціць 5 пачак цыгарэт штомесяц заўгасу, які збірае цыгарэты. Афіцыйна гэта плата за прыбіранне. Як мінімум частка цыгарэт ідзе адміністрацыі. Яна плаціць гэтымі цыгарэтамі сваім інфарматарам. Калі ты адмаўляешся плаціць, будзеш прыбіраць сам.

## «Калі ты выйдзеш, ты абавязаны расказаць пра гэта»

***— Вы казалі, што адміністрацыя рабуе зэкаў фармальна законным чынам. Як гэта?***

— У турэмнай краме кошты ўдвая вышэйшыя за сапраўдныя. Адміністрацыя ведае: у зэкаў няма выбару. Многія скардзяцца, многія мне казалі: «Калі выйдзеш, Алан, ты абавязаны расказаць пра гэта». Я думаю, яны могуць проста красці грошы ў вязняў (усе разлікі ажыццяўляюцца безнаяўна па рахунку. — прым. аўт.). Прадавачка проста нешта лічыць у калькулятары — і ніхто не ведае, што яна там лічыць. Што яны робяць з гэтымі грашыма? Купляюць абсталяванне для турмы: будматэрыялы, дошкі і гэтак далей. Аналагічна і з адлічэннямі з заробку. Згодна з законам, яны могуць вылічваць у вязня да 80% заробку: за харчаванне, адзенне.

Аднойчы я пабачыў табліцу на сцяне ў атрадзе, там было напісана маё імя. Нібыта я мушу нешта заплаціць. Я пайшоў да начальніка калоніі і запытаўся: што гэта? Чаму я мушу плаціць? Ён кажа: «Не-не, ты не мусіш плаціць!» То-бок маё імя аказалася там памылкова. «Мы вылічым гэтыя грошы з тваіго заробку», — сказаў ён, а я кажу: «Якога заробку? Я нічога не зарабляю!» Гэта абсурд. Далёка не ўсе вязні працуюць, але ў іх вылічваюць грошы «з заробку».

Калі прыходзіць камісія па ўмоўна-датэрміновым вызваленні, і ты не плаціў нічога на рахунак калоніі альбо не падпісваўся на газеты — ты не пройдзеш камісію і не будзеш вызвалены ўмоўна-датэрмінова.

## Узаконеныя катаванні?

***— Што б распавялі вязні, калі б у іх была такая магчымасць, як у вас?***

— Адна з галоўных рэчаў, ад якіх пакутуе большасць вязняў, — катаванні. Катаванні праз змяшчэнне ў ШІЗА. Вязняў там збіваюць. Многія «ўскрываюцца»: рэжуць вены, жывот, спрабуюць змагацца з адміністрацыяй, але не маюць сілы на гэта, таму шкодзяць толькі самім сабе. Адміністрацыя рэагуе на гэта проста — працягвае іх збіваць.

Вы, канешне, ведаеце, што ў турме нямала геяў. Зрэшты, іх толькі называюць «геямі», насамрэч многія з іх такімі не з'яўляюцца. Гэтых людзей гвалтуюць. Некаторыя з іх нават збягаюць у лякарню, каб не быць згвалтаванымі. Я размаўляў з адной доктаркай, яна пацвердзіла — гэта адбываецца. Паклікаў начальніка атраду, і перад ім сказаў: у гэтай турме гвалтуюць, і вы нічога з гэтым не робіце. Хто б яны ні былі, вы не маеце права даваць іншым вязням гвалтаваць іх.

Пры гэтым згвалтаваннямі займаюцца не толькі вязні... Мне па гэта расказвалі самі асуджаныя.

***— Чаму вязні вам расказвалі такія рэчы?***

— Магчыма, таму, што я быў адзіным у калоніі, хто імкнуўся зрабіць нешта супраць тамтэйшых парадкаў. Больш давяраць ім не было каму. Тыя з былых дзяржслужбоўцаў, хто хацеў падзяліцца інфармацыяй альбо паведаміць пра парушэнні правоў, баяліся ісці з гэтым да іншых зняволеных, бо палохаліся, што тыя «настучаць» адміністрацыі. Але ўсе ведалі, што я не зраблю такога. Кожны хацеў, каб я выйшаў і апублікаваў факты карупцыі. Са мной сядзела даволі шмат людзей, асуджаных за шпіянаж. Многім былым дзяржслужбоўцам, у тым ліку былым супрацоўнікам КДБ, забаранялі размаўляць са мной. Яны чакалі і чакалі, пакуль мне не застанецца некалькі тыдняў да вызвалення. І тады падыходзілі да мяне і расказвалі. У многіх была выдатная англійская мова — асабліва ў тых, хто асуджаны за шпіянаж.

***— Што вы думаеце наконт «паняццяў» і традыцый, якія падзяляюць зняволеных на касты?***

— Гэтыя правілы навязваюцца блатнымі («the black rulers»). Але скажу шчыра: я быў адзіным чалавекам у турме, хто змагаўся з імі. Я называў іх «чорнымі сукамі» («the black bitches»). Яны працавалі на адміністрацыю, і ўсе іх размовы пра «паняцці» — хлусня. Магчыма, у іншых калоніях па-іншаму, але ў ПК №3 яны працавалі на адміністрацыю. Аднак навязвалі свае правілы: напрыклад, калі ты ўпусціў нешта ў прыбіральні, то больш не мусіш гэтым карыстацца. Я казаў: што за лухту вы выдумляеце? Вы ўскладняеце жыццё іншым вязням. Ідзіце змагайцеся з адміністрацыяй, а не з іншымі вязнямі. Вы будзеце мужыкамі, калі будзеце змагацца за іншых вязняў.

І яны нічога не маглі мне адказаць.

Галоўны «блатны» калоніі Яша падпісаў абавязальніцтвы аб паслухмяных паводзінах. Я казаў яму: як ты можаш быць гангстэрам, калі ты падпісаў гэтыя паперы?

Калі я пайшоў на галадоўку, гэты Яша прыйшоў да мяне і спрабаваў ціснуць: «Чаму ты не сказаў мне, што маеш намер гэта рабіць?» Я сказаў: «Хто ты такі, каб я табе паведамляў пра гэта? Я буду рабіць, што лічу патрэбным».

***— Вы пісалі шмат скаргаў на адрас Дэпартаменту выканання пакаранняў. Ці мелі яны нейкі эфект?***

— Адзін з лістоў на адрас старшыні ДВП я выслаў нелегальна. Напачатку ліста я так і напісаў: «Дасылаю вам гэты ліст нелегальна, бо начальнік калоніі не выпускае мае лісты». Ніхто нічога не зрабіў. Ніводная праверка не прыехала, каб паразмаўляць са мной.

У маім пакоі ў калоніі было 32 чалавекі. Гэта моцна парушала нормы: 2,5 квадратных метра на чалавека. Ведаеце, што мне адказаў начальнік ДВП? «Не, у вашым пакоі толькі 25 чалавек». Я быў шакаваны нахабнай хлуснёй. Як так можна?

***— Звычайна вязняў, якія змагаюцца за свае правы, адразу саджаюць у ШІЗА. Чаму з вамі гэтага не рабілі?***

— Так, у мяне было 70 дысцыплінарных спагнанняў, але мяне так і не змясцілі ў ШІЗА. Хаця многіх змяшчаюць ужо пасля першага. Яны баяліся адпраўляць мяне туды. Я сам казаў начальніку калоніі: «Памясціце мяне ў ШІЗА, я ж парушаю правілы». Адказам было — «Не».

Хутчэй за ўсё, яны палохаліся, што я пабачу тамтэйшыя ўмовы ўтрымання. Альбо баяліся, што я «ўскрыюся». Консулу Брытаніі яны ўвогуле казалі, што ШІЗА не існуе! Адмаўлялі, што ў іх існуе такое пакаранне!

***— Магчыма, такія нялюдскія ўмовы ўтрымання мусяць зрабіць турму жахлівым месцам, куды ніхто больш не захоча патрапіць?***

— Я размаўляў з велізарнай колькасцю арыштантаў. І я гарантую — 80% з іх, калі выйдуць, зноў пойдуць на злачынства. Там няма ніякай адукацыйнай працы, няма ніякай павагі да асобы. Усе яны толькі баяцца пакарання і начальніка калоніі. Пра якое выпраўленне можна казаць?

Я пытаўся ў начальніка аддзела выпраўленчага працэсу: «Як вы выправілі мяне? Якім чынам? Вы называеце гэта месца «выпраўленчай» калоніяй: як яна выправіла мяне?» Усё, што яны могуць, — гэта прымушаць вязняў падпісваць усё, што даюць. Напрыклад, ты мусіш прызнаць віну, калі хочаш вызваліцца ўмоўна-датэрмінова. І кожны, хто не прызнае, застанецца ў калоніі да канца тэрміну. Я, вядома, таксама не прызнаў, і мне адмовілі ва УДВ за «дрэнныя паводзіны», за тое, што я не падпарадкоўваўся правілам. Але якім правілам? Я іх нават не бачыў! На ўсю краіну яны не змаглі знайсці правілаў унутранага распарадку на англійскай мове! Кожны замежнік, які трапляе ў Беларусь, мусіць падпісаць абавязак падпарадкоўвацца гэтым правілам. Вядома, я адмаўляўся. За апошнія два гады я не падпісаў аніводнай паперы, што ад мяне патрабавалі.

Я быў адзіным у турме вязнем-вегетарыянцам. Брытанскі консул пытаўся: «Якую вегетарыянскую ежу вам даюць?» Я толькі смяяўся. Тое, што даюць там, — гэта ўвогуле не ежа. Я амаль не еў яе, замест гэтага казаў — дайце мне самому купіць сваю ежу. Мясцовая доктарка казала, што я першы вегетарыянец, якога яна бачыць у гэтай турме.

***— Што яшчэ вы хацелі б дадаць?***

— Я хацеў бы падзякаваць тым, хто мяне падтрымліваў, і хто змагаецца за правы чалавека ў Беларусі, асабліва Паўлу Левінаву, маёй жонцы, сябрам і «Новаму Часу», які сачыў за маім лёсам. І я хачу перадаць словы падтрымкі ўсім, хто застаецца ў ПК №3.




Турма №3 «Віцьба». «Я бізнесмен, а не злачынца», «Я невінаваты», «Нам патрэбная справядлівасць», «Нам патрэбныя правы чалавека», «Нам патрэбны незалежны суд»




**Заканадаўча забараніце продажы ў недабудаваных дамах! Забараніце долевае будаўніцтва і будаўніцтва жыллёвымі аблігацыямі. Вазьміце на сябе будоўлю кватэр, зрабіце, каб не было спакусы для камерсантаў, якія зарабляюць на падмане!**

# Пазычыць грошы пад працэнты? Альбо прадаваць нырку?

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Шок і адчай — у такой сітуацыі знаходзяцца зараз людзі, якіх «кінулі» з будаўніцтвам жылля. Большасць поўнасцю аплацілі кватэры па аблігацыях, аднак засталіся ні з чым. На забудоўшчыка завялі крымінальную справу, а новыя гаспадары даўгабуду зноў патрабуюць грошы.**

У будаўніцтва двух дамоў на вуліцы Багдановіча ў Мінску (ЖК «Аркадыя») уклалі грошы 640 сем'яў. А кампанія «Тамбаз» пусціла гэтыя сродкі на іншыя мэты — будаўніцтва іншага жылога дома, аплату будматэрыялаў і мантажных прац на другіх аб'ектах. Узвядзенне дамоў распачалося, а разам з тым і будаўніцтва паркінгаў, гандлёвых і офісных памяшканняў. Аднак на гэтым фінансы скончыліся, і будоўля летам 2017 года спынілася.

Крымінальную справу на экс-гендырэктара СТАА «Тамбаз» Льва Хаюціна завялі напрыканцы 2017 года. Да таго часу ў кампаніі ўжо змянілася кіраўніцтва. Хаюцін пакінуў пасаду і (як і яго дачка) прадаў свае долі ў кампаніі.

6 лістапада ўказам Лукашэнкі быў прызначаны новы заказчык — дзяржаўнае прадпрыемства Упраўленне капітальнага будаўніцтва (УКБ) Савецкага раёна Мінска. На сустрэчы з пацярпелымі ўладальнікамі аблігацый прадстаўнікі адміністрацыі заявілі: плаціць за дабудову дамоў давядзецца ўсім. Хто гэтага не зробіць — кватэр не пабачыць. Кошт пакуль не вызначаны.

«Нам папросту выстаўляць рахунак — яшчэ раз. Другі раз пабудаваць кватэру», — паведаміла Вольга, уладальніца аблігацый «Тамбаза». Разам з іншай пацярпелай, Тацццянай, яна ўдзельнічала ў сустрэчы ўладальнікаў аблігацый з кіраўніцтвам адміністрацыі Савецкага раёна.

«То-бок мы плацім два разы. Спачатку мы заплацілі «Тамбазу», а зараз мы заплацім УКБ, — кажа Таццяна. — Прычым столькі, колькі ён выставіць. У нас няма выбару. Калі мы адмаўляемся — УКБ забірае гэтую кватэру і прадае другому чалавеку. Усё належыць зараз УКБ. А жыллёвыя аблігацыі зараз — гэта паперкі, сказаў нам дырэктар УКБ. А ў іх аб'ект. Мы павінны зараз купіць сваю кватэру ў УКБ».

Яшчэ адной маланкай ды громам для «пагарэльцаў» стала тое, што шмат хто з іх можа не атрымаць ніякіх страхавых выплат. Зноў жа дзякуючы «Тамбазу», які афарміў забеспячэнне аблігацый пад паручыцельства афіляваных з ім фірмаў. Як высветлілі пацярпелыя, на адзін адрас і тэлефон зарэгістраваныя тры офісы: «Тамбаз», «Інтэрфакт» і ТАА «АльТэраБуд». Вядома, напрыклад, што ў «АльТэраБуд» чыстых актываў, якімі былі нібыта «забяспечаны» выпускі жыллёвых аблігацый, значна менш, чым даўгоў і спагнанняў.

**На сустрэчы з пацярпелымі ўладальнікамі аблігацый прадстаўнікі адміністрацыі заявілі: плаціць за дабудову дамоў давядзецца ўсім. Хто гэтага не зробіць — кватэр не пабачыць. Кошт пакуль не вызначаны**

— Калі мы куплялі аблігацыі, ведалі, што ў нас ёсць банкаўскія гарантыі, — кажа Вольга. — Канкрэтна гэты выпуск аблігацый быў застрахаваны ў «Тэхнабанку». Мы пазнаёміліся з праспектам эмісіі, упэўніліся, што ўсё ў адпаведнасці з законам. Потым у «Тамбаза» скончыліся грошы, ён перастаў плаціць па банкаўскай гарантыі адлічэнні «Тэхнабанку». Пагадненне аб страхаванні разарвалі. І тады са сваёй юрыдычнай асобай, дзе «Тамбазу» належала доля, ён заключыў дамову. Страхавыя гарантыі «Тэхнабанка» былі заменены на паручальніцтва «АльТэраБуд». І працягнулася забеспячэнне гэтых жыллёвых аблігацый.

Нам пра гэта ніхто не паведаміў. Калі б я гэта ведала, я, безумоўна, была б нязгодная. Гэта парушэнне з боку «Тамбаза», якое не прызнаецца нашай дзяржавай. Мы пра гэта даведаліся, толькі калі ўжо ўсё здарылася.

— У рашэнні пра ўнясенні зменаў у праспект эмісіі, калі былі заменены страхавыя гарантыі «Тэхнабанка» на паручыльніцтва «АльТэраБуд», быў абзац: эмітэнт пры змене страхавога забеспячэння павінен паведаміць пра гэта ўладальніку жыллёвых аблігацый, — распавядае Таццяна. — І калі ўладальнік жыллёвых аблігацый не згодны на замену страхавога пакрыцця, то эмітэнт гэта не робіць. Без нашага ведама змянілі, нам нічога не паведамілі. Змяніў «Тамбаз». У нас быў «Тэхнабанк» — стаў «АльТэраБуд». Паручыцель адказвае ў рамках сваёй маёмасці, у «АльТэраБуд» маёмасці няма. Грошай няма. Мы звярталіся ў Дэпартамент каштоўных папераў. Усюды адпіскі, і ўсе спасылаюцца на інструкцыі — усё па законе. Мы сутыкнуліся з каласальным бязмежжам. А нам кажуць: усё ў рамках закона, ідзіце ў суд.

— Палова сем'яў трапілі ў такую сітуацыю, — кажа Вольга. — У нас аказаліся паручыцелі, у якіх няма ні рэальнай маёмасці, ні грошай, — нічога. Мы ўжо звярнуліся да гэтых арганізацый, якія з'яўляюцца паручыцелямі па дамовах (у нас «АльТэраБуд», ёсць «Інтэрфакт» і іншыя). Зараз мы будзем чакаць, што нам адкажуць. Калі нам адкажуць, што яны не могуць выплаціць нам грошы, мы павінны звяртацца ў суд, заплаціць 5 працэнтаў пошліны дзяржаве ад сумы, якая спаганяецца, і чакаць. Калі ўсе звернуцца з іскамі да «АльТэраБуд» — фірма прызнае сябе банкрутам. І мы станем у пятую чаргу. Таму што ў першую чаргу становяцца працаўнікі па заробку, потым дзяржава, потым яшчэ хтосьці, а мы па каштоўных паперах ідзем пятай чаргой. Спачатку задавальняюцца патрабаванні першай чаргі, потым другой, трэцяй… То бок нам нічога не застанецца. Мы застанёмся ні з чым. Мы застанёмся пацярпелымі.

Астатнім сем'ям пашанцавала крыху больш. Тым, у каго забеспячальнікамі засталіся страхавыя кампаніі. Яны могуць спадзявацца на страхавое пакрыццё, але толькі ў памеры намінальнага кошту аблігацый. У розныя перыяды людзі набывалі аблігацыі па кошце ад 900 да 1400 долараў за штуку (па кошце квадратнага метра жылля). А намінальны кошт вагаецца ад 480 да 660 рублёў за аблігацыю. То бок, па страхоўцы яны могуць атрымаць 25–30 працэнтаў ад сумы, якую ўклалі ў аблігацыі.

«У іх будзе задатак на даплату кватэры, калі страхавая кампанія выплаціць намінальны кошт, — кажа Вольга. — Таму што аблігацыі застрахаваныя пад намінал. Калі плацілі па 1200 долараў — вернуць максімум 610 рублёў, 300 долараў. Але яны таксама прыйдуць па УКБ і зноў купяць сваю кватэру. Другі раз. І будуць дабудоўваць. Людзям, у якіх няма сродкаў, лепш, чым згубіць усё, хоць частку вярнуць. То-бок будуць улазіць у пазыкі, браць крэдыты, пазычаць у знаёмых. А потым будуць прадаваць кватэры, каб аддаваць даўгі».

«Трэба дабудаваць, каб хоць штосьці вярнуць. Калі ты не будуеш — ты адмаўляешся ад кватэры. Табе ніхто нічога не кампенсуе», — кажа Вольга.

«У студзені 2013 года, з улікам курса долара, я заплаціла за аблігацыю 900 долараў — кошт квадратнага метра кватэры. Зараз, калі б у мяне была страхавая кампанія, я б атрымала 480 рублёў, 230 долараў. Але я наогул нічога не атрымаю. Таму што ў мяне дамова паручальніцтва», — распавядае жанчына. «Колькі нам УКБ выставіць? Невядома. Як палічыць, як захоча. Паводле сціплых ацэнак — мінімум 500 долараў за квадратны метр. Калі ў мяне 41 метр, то мне трэба даплаціць 20 тысяч долараў. Але ў мяне яшчэ 4 метры гаўбца — па камерцыйным кошце. Бо яшчэ ж у нас «Тамбаз» змяніў праект. І сямтам намаляваліся лішнія метры. Мне дадалі балкон, пра які я не прасіла. УКБ патрабуе дакупіць яго па камерцыйным кошце. Які камерцыйны кошт? Я не ведаю. Можа, мне выставяць па 1200 долараў?» — распавядае Вольга.

Паводле яе падлікаў, яна павінна будзе даплаціць мінімум 25 тысяч долараў. «Гэтыя грошы трэба будзе знайсці. Калі браць крэдыт — трэба будзе плаціць працэнты банку. Каб на працягу двух-трох гадоў кватэру дабудаваць, потым прадаць, потым аддаць даўгі. Бо я са сваім даходам не магу сабе дазволіць такія даўгі. І зноў у мяне не будзе кватэры», — кажа жанчына.

Варыянты дабудовы без даплаты ўладальнікаў акцый, якія ў поўным аб'ёме выкупілі свае кватэры, улады не ўзялі пад увагу. Напрыклад, з выкарыстаннем бюджэтнай пазыкі, што павінна быць пагашаная за кошт сродкаў «Тамбаза», які не выканаў свае абавязацельствы. Пацярпелыя прапаноўвалі дабудоўваць за кошт маёмасці забудоўшчыка, перадаць яго актывы ў кошт аплаты завяршэння будоўлі. Але прапанову людзей хаця б зменшыць для іх даплату за кошт продажу камерцыйных плошчаў, на будаўніцтва якіх «Тамбаз» траціў іх грошы, чыноўнікі не прынялі ў разлік.

«У праспекце эмісіі жыллёвых аблігацый было напісана, што грошы будуць выдаткоўвацца на будаўніцтва жылых дамоў, — кажа Вольга. — «Тамбаз» за тыя сродкі, што былі прыцягнуты на будаўніцтва жылой часткі, будаваў і аўтастаянкі, і гандлёвыя, і адміністрацыйныя памяшканні. Ён будаваў іх за нашы грошы. І гэтыя выдаткі нам ніяк вяртацца не будуць».

Адхілены ўсе патрабаванні пацярпелых: без даплат — камерцыйны кошт у залік — продаж маёмасці «Тамбаза». І пралазы ў законе, як адзначаюць уладальнікі акцый, дазвалялі рабіць махлярствы. Забудоўшчык можа марнаваць атрыманыя грашовыя сродкі не па мэтавым прызначэнні.

«Чаму гэта ўсё адбылося? Хаця ён быў пачынальнікам асацыяцыі забудоўшчыкаў Рэспублікі Беларусь. І гэта ён пралабіяваў указ прэзідэнта, што дазволіў будаўніцтва шляхам размяшчэння жыллёвых аблігацый. Каб было такое будаўніцтва, па якім поўнасцю адсутнічае кантроль за мэтавым расходаваннем грашовых сродкаў. Поўнасцю. Няма ніякага спецрахунку, на які залічаюцца грошы і якія потым з гэтага рахунку можна выдаткоўваць толькі ў мэтах будаўніцтва канкрэтнага аб'екта. Такога няма. У праспекце эмісіі напісана, на што ён выдаткоўвае нашы грошы, але кантролю няма. Грошы сышлі з рахунку — і сышлі. І ўсё», — лічыць Вольга.

**Як стала вядома з матэрыялаў праверкі Камітэта дзяржкантролю, СТАА «Тамбаз» не толькі пусціў грошы людзей на будаўніцтва камерцыйных плошчаў і іншых аб'ектаў. Частку забудоўшчык вывеў з абаротных сродкаў, і рэалізаваў жыллёвыя аблігацыі афіляваным асобам па заніжаных коштах**

Аналагічныя схемы выкарыстоўваюцца не ўпершыню. Прыклад — кампанія «Валынь» і яе скандальны даўгабуд па жыллёвых аблігацыях у Мінску на вуліцы Валгаградскай. «Даплаты» — 1500 рублёў за адзін «квадрат». Новым заказчыкам там таксама стала УКБ Савецкага раёна. «Мы ваявалі паўтара года, а атрымалі па факце другую «Валынь», — кажа Таццяна. — Ёсць тыповая дамова пра змену забудоўшчыка. Той жа Трушчанка (кіраўнік адміністрацыі Савецкага раёна. — рэд.) сказаў, што «ў нас ёсць прэцэдэнт — у нас ёсць «Валынь». Мы будзем працаваць як па «Валыні».

Геаграфія зваротаў уладальнікаў аблігацый сягае да такіх ведамстваў, як КДБ, Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, пракуратура. Чатыры відэазвароты былі адрасаваныя кіраўніку дзяржавы.

«Былы дырэктар «Тамбаза» пад следствам. Мы прызнаныя пацярпелымі. Гэта проста словы. Больш нам ніхто не дапамагае. Вылазяць такія праблемы, з якімі кожны дзень сутыкаешся, і ты безабаронны. Куды б мы ні пісалі лісты, ва ўсе інстанцыі — адпіскі пішуць пад капірку. З іншага боку, хто павінен несці адказнасць? Я як спажывец набыла жыллёвыя аблігацыі пад гарантыі дзяржавы, афіцыйна заплаціла грошы, у мяне ёсць усе дакументы. І я хачу атрымаць сваю кватэру! У дэпартаменце (па каштоўных паперах. — рэд.) мне казалі, што ўсё пад кантролем, усё законна. Я не купіла нейкія паперкі ў суседа, і я не купіла ў прыватніка нейкі кавалак агарода. Дзяржава дала зямлю на будаўніцтва, выдала ўсе дакументы на дазвол, ліцэнзію, дазволіла эмітаваць жыллёвыя аблігацыі. Тады наогул які сэнс у такіх будаўніцтвах-латэрэях?» — задаецца пытаннем жанчына.

«Раённая адміністрацыя адказала ў вочы: самы надзейны спосаб — купля гатовай кватэры. Тады заканадаўча забараніце продажы ў недабудаваных дамах! Забараніце долевае будаўніцтва і будаўніцтва жыллёвымі аблігацыямі. Вазьміце на сябе будоўлю кватэр, зрабіце, каб не было спакусы для камерсантаў, якія зарабляюць на падмане. Няхай УКБ будуюць. Няхай «Тамбаз» сам уклаў бы 10 мільёнаў долараў, пабудаваў дом і потым прадаў. А не ствараў такія мыльныя бурбалкі ў выглядзе жыллёвых аблігацый. А потым нас яшчэ і вінавацяць: «Вы самі вінаватыя», — сказаў нам Трушчанка. У абарону нашых правоў ніхто не адрэагаваў, і ніхто нам не хоча дапамагчы. Заканадаўства працуе не на звычайных грамадзян, а на інтарэсы чыноўнікаў і камерцыйных структур. Я проста абурана тым бязмежжам, з якім я сутыкнулася ў будаўнічай сферы. Дзе ёсць, вось як у нас, будаўнічая піраміда. Як аказалася, мы дабудоўвалі папярэднія дамы «Тамбаза». Мы апошнія. Гэта называецца будаўнічая піраміда».

Фіяска з будаўніцтвам прынесла цяжкія наступствы для людзей. Некаторыя, каб купіць аблігацыі, прадалі свае кватэры і пераехалі на здымнае жыллё. Бралі крэдыты, залазілі ў пазыкі.

«Гэта проста страшна, — кажа Таццяна. — Мне пагражае даплата каля 35 тысяч долараў — мінімальная (66 квадратаў у мяне). У нас няма страхоўкі, выплат па ёй не будзе. Зараз я павінна думаць: альбо я пазбаўляюся кватэры, купленай за 60 тысяч долараў, альбо я недзе знаходжу 35 тысяч долараў. Прадаю аўтамабіль, бяру крэдыт, пазычаю ў знаёмых… Не ведаю, дзе мне ўзяць. У мяне крэдыт ужо ёсць, я ўзяла яго, каб пабудаваць кватэру. І на якую суму яшчэ дадуць? Альбо пазычыць грошы пад працэнты. Альбо прадаваць нырку. Што хочаш проста рабі — альбо заставайся без кватэры! І ўсё — у межах закона!»

Як стала вядома з матэрыялаў праверкі Камітэта дзяржкантролю, СТАА «Тамбаз» не толькі пусціў грошы людзей на будаўніцтва камерцыйных плошчаў і іншых аб'ектаў. Частку забудоўшчык вывеў з абаротных сродкаў, а таксама рэалізаваў жыллёвыя аблігацыі афіляваным асобам па заніжаных коштах.

У будаўніцтве склалася злачынная схема, лічаць пацярпелыя. Штучна ствараецца недабудоў (па розных прычынах: крадзеж, нямэтавае выкарыстанне грошай, зацягванне будаўніцтва), пасля перадаецца дзяржзабудоўшчыку, які падначалены мясцовай выканаўчай уладзе. А з грамадзян пры гэтым спаганяюцца дадатковыя грошы на завяршэнне будоўлі. Прымяненне такой схемы прыводзіць да абагачэння забудоўшчыкаў, а таксама чыноўнікаў, якія іх пакрываюць.

11 снежня людзі зноў звярнуліся да кіраўніка дзяржавы — напісалі ліст, спадзеючыся, што дапаможа. Увесь кошт дабудовы жылля, як адзначылі падпісанты, ім паўторна выставяць на аплату. Паводле ацэнак пацярпелых, памер складзе ад 30 да 50 працэнтаў ужо ўнесеных імі сум. Вялікая колькасць людзей, у тым ліку тых, хто мае не пагашаныя крэдыты, сем'і з дзецьмі, не змогуць унесці даплаты на завяршэнне будаўніцтва. А значыць, згубяць свае кватэры і грошы. Людзі просяць Лукашэнку «асабіста паўплываць у сітуацыю і тэрмінова прыняць захады па абароне інтарэсаў грамадзян».



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПАКІСТАН. Кожнай жанчыне па курыцы!

Пакістанскае грамадства дасюль не можа прыйсці ў сябе ад арыгінальнай ідэі прэм'ера Імрана Хана. Пакістанскі прэм'ер адзначыў сто дзён знаходжання пры ўладзе, агучыўшы праграму барацьбы супраць беднасці сярод жанчын (для даведкі: у краіне каля 7,7 мільёна сямей жывуць па-за рысай беднасці). Каб ліквідаваць такую негатыўную з'яву, прэм'ер мае намер раздаваць бедным жанчынам па некалькі курыцаў. Логіка ў чыноўніка вельмі простая. Курыца будзе несці яйкі, якія можна пасля прадаваць або павялічыць колькасць птушак у гаспадарцы. Як вынік, паступова жанчына можа пачаць свой бізнес і матэрыяльна стаць на ногі. Шматлікія пакістанцы рэагавалі на такі рэцэпт жартамі і мемамі, выяўляючы прэм'ера як курыцу. У выніку той быў вымушаны пракаментаваць каскад жартаў на яго адрас. У тым ліку ён выклаў у сябе на акаўнце ролік з Білам Гейтсам, які, як высвятляецца, таксама верыць у чароўную здольнасць курыцы палепшыць эканоміку краіны.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Урокі патрыятызму

Мінабароны Грузіі падрыхтавала школьнікам навагодні падарунак — прапанавала ўвесці ў школьную праграму новы прадмет «Абарона і бяспека». «Гэты падручнік азнаёміць падрастаючае пакаленне, перад якімі небяспекамі знаходзіцца Грузія», — кажа міністр абароны. Паводле яго, у падручніку, які пакуль ніхто не бачыў, закранаюцца тры тэмы: жнівеньская вайна 2008 года, Грузія ў міжнародных місіях і ўзбраенне. Курс плануецца пачаць выкладаць з новага года. Прычым выкладчыкамі будуць афіцэры. Ідэя не выклікала ў грузінаў захаплення, хоць тэма нацыянальнай бяспекі з'яўляецца актуальнай. Па-першае, перспектыва з'яўлення афіцэраў у школах не ўсім прыйшлася даспадобы. Кажуць, што патрыятызм трэба замацоўваць выкладаннем гісторыі. Мэта школы — вучыць падлеткаў не выконваць загады, а крытычна мысліць. Нарэшце, пратэсты непазбежныя з-за таго, што ў новым падручніку будзе гаварыцца аб жнівеньскай вайне, а ў грузінскім грамадстве няма кансенсусу з нагоды чыннікаў і ходу тых падзей. Таму жнівеньская вайна як асобны раздзел нават не ўвайшла ў падручнікі найноўшай гісторыі Грузіі. Так ці інакш, з новага года плануецца пачаць выкладацца «Абарону і бяспеку» ў некалькіх школах у дзясятых класах. Праўда, першапачаткова курс будзе неабавязковы.

**Паводле грузінскай прэсы**

### УКРАІНА. За Дзеда Мароза ці за Святога Мікалая?

Ва ўкраінскім дыскурсе даўно гучыць небяспека культурна-палітычнага расколу краіны на рускамоўны паўднёвы ўсход краіны і прazаходніцкія цэнтральныя і заходнія рэгіёны. Як правіла, фактарамі гэтага расколу называюцца мова, асаблівасці калектыўнай гістарычнай памяці, геапалітычныя арыенціры і іншае. Нечакана да згаданага набору дадалася такая з'ява, як стаўленне да зімовых святаў. У прынцыпе, зімовы святочны цыкл украінцы любяць больш за іншыя святы. Для 40% насельніцтва любімымі святамі з'яўляюцца Новы год і Каляды, сказана ў даследаванні сацыялагічнай групы «Рэйтынг», што было апублікаванае 17 снежня. Аднак на гэтым гармонія заканчваецца. Паводле дадзеных сацыёлагаў, у Дзеда Мароза верыць 25% грамадзян Украіны, якія, як правіла, жывуць на Паўднёвым Усходзе. У той жа час падарункаў ад Святога Мікалая чакаюць 43% апытаных, большасць з якіх, у сваю чаргу, жыве на захадзе краіны. Тое ж самае тычыцца прыярытэтаў наконт Калядаў і Новага года. На поўдні і ўсходзе Украіны больш любяць Новы год, а ў заходніх абласцях — Каляды. Зрэшты, нягледзячы на такі кантраст, наўрад ці варта чакаць канфлікту паміж прыхільнікамі Дзеда Мароза ці Святога Мікалая.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ФРГ. Жаночая квота

Былая футбалістка зборнай ФРГ Каця Краус выступіла з цікавай прапановай, якая, на яе думку, павінна павялічыць вагу жанчын у грамадстве. Каця прапануе сварыць жаночую квоту ў складзе трэнерскіх штабоў усіх клубаў, якія гуляюць у Бундэслізе. За кошт такой рэформы кожны, маўляў, нарэшце зразумее, што кабеты могуць кіраваць любой галіной. Акрамя таго, фрау Краус спадзяецца, што пасля футболу жаночая квота ўзнікне ў кожным відзе спорту. Заклік Краус, як і трэба было чакаць, справакаваў адмоўную рэакцыю сярод аматараў футболу, дзе традыцыйна хапае свядомых праціўнікаў феміністычнага руху. Тым больш, што раней Краус была ініцыятарам не менш экстравагантнай рэформы. Паводле яе, кіраўніцтва Бундэслігі павінна было забараніць футбалістам здымаць цішоткі пасля забітага голу. На думку Каці Краус, гэта не што іншае, як акт «архаічнай сімволікі».

**Паводле нямецкай прэсы**



www.pikabu.ru

# Каму належыць Арда?

Алег НОВІКАЎ

**Наступны год пройдзе пад знакам 750-й гадавіны стварэння Залатой Арды. Юбілей можа прынесці нам шмат сюрпрызаў.**

Ад Іртышу на ўсходзе да Дуная на захадзе, ад Аральскага мора на поўдні да старадаўніх рускіх зямель уключна. Такую тэрыторыю ахопліваў Улус Джучы (старшы чын Чынгіз-Хана), што пазней гісторыкі пачалі называць Залатая Арда. З часам (Арда існавала да 1459 года) на яе землях паўсталі такія дзяржавы, як Расія, Украіна, Узбекістан, Казахстан і іншыя.

Цяпер няма сумневаў у тым, што для большасці з пералічаных краінаў юбілей стане важнай грамадскай падзеяй. Хаця б таму, што гэта можа абудзіць рэгіянальны гістарычны турызм. Зразумела, будучая гістарычная дата з'явіцца каталізатарам навуковага інтарэсу да гісторыі самай буйной сярэднявечнай дзяржавы Еўразіі.

Але таксама не абыдзецца без спробаў інструменталізаваць спадчыну Арды ў прагматычных мэтах. Усё праз тое, што нечакана ў канцэпцэ Арды палітычныя эліты пабачылі шмат пазітыву. Гэта выглядае, на першы погляд, трошкі дзіўна. Як ні круці, Арда была сярэднявечнай дзяржавай з адпаведнымі разуменнем годнасці індывідуума. Так, вядомы літаратар Васіль Ян, які вывучаў гэты перыяд, наступным чынам апісвае сцэны прыходу ардынцаў на Русь: «...яны кідалі ў полымя палаючых дамоў дзяцей, вырваўшы іх з рук маці, якіх затым на вачах ва ўсіх гвалтавалі, а затым адрэзалі ім грудзі, успорвалі жываты».

Аднак цяпер Арду трактуюць, як правіла, інакш. Напрыклад, казахскі афіцыёз прадстаўляе Арду як прыклад міжнацыянальнага і рэлігійнага міру. «У Залатой Ардзе, як і ў нашым Казахстане, не было рэлігійных войнаў, у ёй спакойна ўжываліся прадстаўнікі розных канфесій. Увогуле, карані міжэтнічнай і міжрэлігійнай талерантнасці, характэрнай для незалежнага Казахстану, узыходзяць да нашага агульнага золатаардынскага мінулага», — піша адзін з мясцовых прапагандыстаў. Са спасылкай на сярэднявечныя часы ў Астане намагаюцца апраўдаць існаванне моцнай прэзідэнцкай вертыкалі, і нават дынастычны прынцып перадачы ўлады.

Шмат чаго можна чакаць у наступным годзе і ад суседняга Узбекістану. Тут яшчэ некалькі гадоў таму Рустамжон Абдулаеў выдаў артыкул пра тое, што Узбекістан «мае права быць правапераемнікам усіх дзяржаў, якія з'явіліся на землях Арды». Сярод краін, на тэрыторыю якіх, на думку Абдулаева, можа і павінен прэтэндаваць Узбекістан, называліся Расія, Казахстан, Кіргызстан, Таджыкістан і Туркменістан. Каментуючы публікацыю, некаторыя сумняваліся ў ментальнай адэкватнасці аўтара. Іншыя звярталі ўвагу на тое, што інтэрнэт-рэсурс, які апублікаваў артыкул Абдулаева, з'яўляецца блізкім да спецслужбаў.

З узбекскай версіяй наўрад ці пагодзіцца ў Кыргызстане. У Бішкеку ў 2015 годзе выйшла кніжка пад характэрнай назвай «Вялікі Чынгіз-Хан быў кыргызам». Фішка тэорыі ў тым, што бацькі заснавальніка дынастыі Чынгізідаў, да якой належаў і Джучы, маўляў, былі этнічнымі кыргызамі.

Але самых незвычайных навінаў наконт разумення Арды варта чакаць з Расіі. Тут ужо пачалася пікіроўка наконт прыроды згаданай дзяржавы і яе месца ў расійскай гісторыі. Найбольш радыкальныя «ардафілы» прапануюць у 2019 годзе адзначыць не гадавіну заснавання Арды, а гадавіну заснавання... Расіі. На іх думку, Арда стала інкубатарам расійскай дзяржаўнасці, бо ў яе межах паўстала незвычайнае адзінства славянскага і цюркскага светаў. Не кажучы пра тое, што Маскоўскае царства ніколі не разрывала з ардынскімі традыцыямі, асабліва ў галіне мадэлі адміністрацыі.

Такі падыход выклікаў абурэнне сярод патрыётаў. «Словы пра «сінкрэтычны характар Залатой Арды» ёсць камуфляжам эпохі нацыянальнага прыніжэння рускага народа, насаджэння рабства і перашкоды прагрэсу. Гэтую эпоху, па сутнасці, пачаў ламаць толькі Пётр Вялікі», — піша адзін з такіх патрыётаў. У гэтых колах таксама папулярная думка пра тое, што юбілей Арды гальванізуе татарскі нацыяналізм.

Татары сапраўды збіраюцца шырока адзначаць круглую дату. У Казані адбудзецца галоўнае мерапрыемства ў рамках юбілею — вялікая міжнародная навуковая канферэнцыя. Аднак выступамі навукоўцаў справа не абмяжуецца. Ужо зараз частка татарскіх актывістаў ставіць перад Крамлём пытанне рубам: ці не прыйшоў час, каб пакаяцца за Кулікоўскую бітву?

«Маючы адбыцца 750-гадовы юбілей Залатой Арды павінен стаць пераломным у працэсе пераасэнсавання нашай агульнай спадчыны. Прыйшоў час канчаткова знішчыць рудыменты грамадзянскай вайны ў масавай свядомасці і пакончыць, як казаў Гумілёў, з «чорнай легендай» пра татар. Нельга дзяліць грамадзян і нашу агульную гісторыю. На гэтым будуецца падмурак нашага агульнага еўразійскага славяна-цюркскага, праваслаўна-мусульманскага свету». — піша адзін з казанскіх блогераў.

То-бок, міф пра татарскае нашэсце — фундамент расійскай афіцыйнай гісторыі, — павінен быць разбураны на самым высокім палітычным узроўні. Прычым у аматараў такой ідэі ёсць свой джокер. Прызнанне ардынскай спадчыны часткай расійскай дзяржаўнай традыцыі, быццам, можа дапамагчы казаць пра глыбінныя гістарычныя сувязі Расіі з Крымам, які, як вядома, таксама быў у складзе Залатой Арды.

У сувязі з гэтым не выключана, што юбілей Арды таксама будзе шырока адзначацца ў Кіеве, які выступае патронам крымскататарскага руху. Дарэчы, украінцы таксама былі моцна звязаныя з Ардой. Паводле легенды, заснавальнік украінскага казацтва казак Мамай быў нашчадкам ардынскага князя Мамая. Да таго ж, калі верыць тагачасным малюнкам, ён любіў граць на кобзе — украінскім варыянце цюркскага інструмента «кобыз».

# Зарабіць на Калядах

Алег НОВІКАЎ

**Для кагосьці Каляды — святы і адпачынак, а для нямецкага бізнесу самы гарачы час. Калядны шопінг прыносіць шалёныя прыбыткі. Праўда, далёка не ўсе немцы задаволеныя спажывецкай ліхаманкай напярэдадні 25 снежня.**



Некаторыя выданні сцвярджаюць, што падарункамі на Каляды немцы пачынаюць цікавіцца аж напрыканцы лета. Нездарма ў краіне выдаюцца дапаможнікі па стратэгіі набыцця калядных падарункаў. Тыя дапаможнікі раяць вызначацца на гэты конт прыкладна ў кастрычніку, каб ужо ў лістападзе спакойна набыць рэч, што спадабалася. Аднак, нягледзячы на ўвесь характэрны немцам прагматызм і рацыяналізм, усё роўна кульмінацыя каляднага шопінгу прыходзіцца на чатыры апошнія тыдні сыходзячага года. У гэты час цэнтральныя вуліцы ператвараюцца ў сапраўдны Вавілон.

На першы погляд, чатыры тыдні — не такі ўжо і вялікі перыяд. Між тым, гэтага часу дастаткова, каб зарабіць грошай на год наперад. Да прыкладу, адна стандартная кніжная кропка ў Германіі зарабляе на Каляды на продажы календароў прыкладна 10 тысяч еўра. Яшчэ больш можна атрымаць, калі разліваць глінтвейн на калядных кірмашах, — да 100 тысяч еўра. Усяго ў мінулым годзе на Каляды немцы набылі тавараў на суму 17 мільярдаў еўра.

Дарэчы, у мінулым годзе ў сярэднім грамадзянін Германіі выдаткаваў на калядныя падарункі прыкладна 276 еўра. Гэта было на шэсць еўра больш, чым у папярэднім, 2016 годзе. Няма сумневаў, што Каляды 2018-га паб'юць той рэкорд.

З улікам агучаных лічбаў, не дзіўна, што ў нямецкай гаспадарцы існуе нават такая спецыфічная галіна, як выпуск тавараў і прадуктаў, якія прадаюцца выключна напярэдадні Калядаў. Самы вялікі сегмент у гэтай галіне займае вытворчасць цацак, сувеніраў і прысмакаў (прыкладна па 25 працэнтаў). На трэцім месцы — парфума і вопратка (каля 19 працэнтаў). Натуральна, пакупнік цікавіцца не толькі каляднымі таварамі. Гандлёвыя цэнтры абвяшчаюць у гэты час распродажы.

У нямецкім бізнесе існуе нават такі накірунак, які можна назваць «калядны маркетынг», што вывучае паводзіны пакупнікоў падчас Калядаў. Так, за кошт даследаванняў даведзена, што кліенты крамаў больш ахвотна набываюць тавары ў прывабнай упакоўцы. Калі такая ўпакоўка будзе чырвонага колеру, шанцы прадаць тавар яшчэ большыя. Нарэшце, важна стварыць у пакупніка адпаведны эмацыйны настрой. Паводле тых жа даследаванняў, добры святочны настрой, які можа сфармаваць праз дызайн крамы і музычны фон, моцна ўплывае на пакупніцкі апетыт.

З іншага боку, тая статыстыка сведчыць, што асаблівы дызайн крамаў на Каляды, магчыма, нават не абавязковы. Бюргерам проста падабаецца хадзіць па маленькіх крамах у час Калядаў і нешта хаатычна набываць. Гэты папулярны звычай не здолелі разбурыць ані велізарныя камерцыйныя цэнтры, ані продажы праз інтэрнэт. Калядныя продажы праз інтэрнэт складаюць каля 19 працэнтаў ад усіх пакупак у гэты час, хоць набываць мышкай зручна і лёгка. На вялікія гандлёвыя цэнтры прыходзіцца 41 працэнт пакупак.

Хаця калядны шопінг карыстаецца ў Германіі вялікай папулярнасцю, стварае рабочыя месцы і напаўняе бюджэт, стаўленне да гэтай з'явы ў грамадстве амбівалентнае. Прафсаюзам не падабаюцца спробы бізнесу перагледзець графік працы крамаў у снежні. На цяперашні час гандлёвыя кропкі ў ФРГ, у тым ліку на святы, павінны зачыняцца аб 18.30, а ў нядзелю ўвогуле не працаваць.

Прадпрымальніцкае лобі даўно змагаецца за новы расклад працы крамаў на Каляды, аднак пакуль беспаспяхова. Дарэчы, мясцовыя ўлады часам не супраць рэформы, аднак такія спробы блакуе Федэральны суд са спасылкай на Канстытуцыю.

Яшчэ большым праціўнікам шопінгу на Каляды з'яўляецца царква. Натуральна, святарам не падабаецца, калі людзі ў падчас Калядаў замест малітваў і думак пра Бога бегаюць за таварамі па акцыі. Акрамя таго, камерцыйны ажыятаж адбіваецца на колькасці наведвальнікаў набажэнстваў. «Калі шопінг будзе на першым месцы, усё ператварыцца ў тавар», — паскардзіўся ў 2010-м старшыня савету Нямецкай Евангельскай Царквы.

Напэўна, у чымсьці святар мае рацыю, аднак усё ж, думаецца, яго заява гучыць трошкі катэгарычна. Калядны шопінг — усяго толькі адзін з элементаў гэтага любімага свята немцаў.



Фота www.metrospirit.com

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Нурсултан Назарбаеў

Кіраўнік Казахстана апошнім часам незвычайна актывізаваўся: ездзіць па рэгіёнах, займаецца кадравымі перастаноўкамі, піша праграмныя артыкулы пра лёс нацыі. Усё гэта, на думку назіральнікаў, нагадвае выбарчую кампанію.

Дадатковая прыкмета — просьба да чыноўнікаў не сыходзіць у адпачынак у бліжэйшыя паўгода. Іншымі словамі, Елбасы, здаецца, вырашыў пераабрацца датэрмінова, хоць паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы заканчваюцца ў красавіку 2020 года.

Зрэшты, такое не ўпершыню. Практычна ўсе прэзідэнцкія і парламенцкія выбары за гады незалежнасці праходзілі датэрмінова. Тое, што ў выпадку выбараў Елбасы зноў «элегантна» пераможа, няма сумневаў. Аднак некаторыя асцярожна дапускаюць, што на гэта раз кандыдатам улады будзе нехта іншы. Казахстан знаходзіцца напярэдадні рэалізацыі іранскай мадэлі падзелу вярхоўнай улады, калі разам з прэзідэнцкай вертыкаллю будзе існаваць уплывовы Савет бяспекі, падначалены першаму кіраўніку. Але з улікам таго, што Назарбаеў не сыходзіць з экранаў тэлебачання, хутчэй за ўсё, на выбары пойдзе менавіта ён.

Дапускаюць, што незбалансаванасць адносін унутры эліты і неабходнасць абкатаць формулу з Саветам бяспекі штурхаюць Назарбаева да правядзення датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў у першай палове 2019 года. Перамога на датэрміновых выбарах дазволіць выйграць час да 2024 года для забеспячэння абсалютна выверанага і гарантаванага транзіту ўлады.

### Памела Андэрсан



Амерыканска-канадская актрыса і фотамадэль, адна з секс-сімвалаў ЗША, нечакана для ўсіх стала яшчэ і кумірам еўрапейскіх левых. Усё дзякуючы яе каментару ў Twitter з нагоды апошніх падзей у Францыі.

«Я супраць гвалту», — напісала Андэрсан, асуджаючы біццё шкла і паліцэйскіх. Але затым дадала: «Ва ўсім вінаватыя няроўнасць паміж элітай і 99 працэнтамі людзей, прычым не толькі ў Францыі, але і ва ўсім свеце». Яе допіс выклікаў вялікі рэзананс. У Парыжы нават з'явіліся графіці «Памелу Андэрсан у прэзідэнты!» Між тым, сама яна працягвае даваць палітычныя каментары: публічна падтрымала брытанскіх лейбарыстаў, а потым раскрытыкавала правы ўрад Італіі.

У той час, як 51-гадовая зорка зноў у прамянях славы, прыхільнікі еўраінтэграцыі абураюцца. На іх думку, Андэрсан сваімі блогамі рэкламуе «жоўтых камізэльк», якія выступаюць за выхад Францыі са складу Еўрасаюза. Ёй таксама згадваюць неадназначовыя сустрэчы з Пуціным і крытыку феміністак з руху #MeToo.

Іншыя медыя рэагуюць на новы імідж акторкі больш спакойна, мяркуючы, што лепш быць левай актывісткай, чым аголенай мадэллю з вокладкі «Playboy». Варта таксама агучыць тэзіс амерыканскай прэсы: Памэла Андэрсан, якая знялася 25 гадоў таму ў самым папулярным у гісторыі тэлебачання серыяле «Выратавальнікі Малібу», для многіх людзей у свеце з'яўляецца сімвалам 1990-х гадоў, калі ў свеце дамінавалі аптымізм і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

### Эрнэста Араужо



Будучы дырэктар бразільскага МЗС пры нядаўна абраным правапапулісцкім прэзідэнце Жаіры Балсанару ўступіць на пасаду толькі на пачатку наступнага года — пасля інаўгурацыі новага кіраўніка дзяржавы. Аднак ён ужо прымусіў гаварыць пра сабе, дзякуючы скандальным рэплікам.

Ён публічна ўсумніўся ў глабальным пацяпленні, якое, паводле яго слоў, прыдумалі марксісты. І новая выхадка, якая можа мець больш сур'ёзныя наступствы: Эрнэста заклікаў сусветную супольнасць «аб'ядначца, каб вызваліць Венесуэлу ад левага аўтарытарызму Нікаласа Мадуры».

Сваю ваяўнічую пазіцыю адносна Каракаса будучая адміністрацыя прадэманстравала, калі не запрасіла Мадуру на інаўгурацыю Балсанару на падставе «павагі да венесуэльскага народа».

Адказ Каракаса вытрыманы ў такім жа ваяўнічым духу.

Варта дадаць, што на мінулым тыдні Нікалас Мадура абвінаваціў адміністрацыю ЗША ў падрыхтоўцы перавароту ў Венесуэле, які амерыканцы, маўляў, збіраюцца ажыццявіць рукамі бразільцаў. Самае смешнае, што многія бразільцы правых поглядаў асудзілі дзеянні Араўжо. На іх думку, Мадуру трэба было, наадварот, запрасіць на інаўгурацыю, каб на месцы арыштаваць і судзіць.

# «Нармандыя—Нёман»:

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У снежні 1942 года было створана франка-савецкае авіяцыйнае падраздзяленне, што ўпісала нямала старонак у сумесную барацьбу з нацызмам.**

### «Вольная Францыя»

Пасля падпісання ў 1935 годзе дагавора паміж СССР і Францыяй разгарнулася інтэнсіўнае ваеннае супрацоўніцтва. Да прыкладу, у 1939 годзе камбрыг Сямён Крывашэін, былы камандзір механізаванага палка Шостай Чангарскай кавалерыйскай дывізіі (Гомель), праходзіў стажыроўку ў бранятанкавай частцы ў Шарля дэ Голя.

Пасля стварэння ў чэрвені 1940 года войскаў «Вольнай Францыі» былі сфармаваныя і свае ВПС. Калі брытанская армія і войскі Шарля дэ Голя захапілі авіябазу Раяк у Сірыі, французскія ВПС узмацніліся да дзвюх авіягрупаў — «Эльзас» і «Латарынгія». Лётчыкі з Сірыі і сталі асновай для франка-савецкай эскадрыллі «Нармандыя».

У верасні 1941 года Савецкі Саюз стаў першай краінай, што абмянялася дыпламатычнымі прадстаўнікамі з «Вольнай Францыяй». Дэ Голь быў у поўным захапленні, і французы прапанавалі накіраваць у РККА матарызаваную дывізію з Сірыі. Але з-за процідзеяння англічан было вырашана абмежавацца адной авіяцыйнай эскадрылляй. Магчыма, так было і лепш — амаль палову гэтай дывізіі складалі сенегальцы, наўрад ці здольныя вытрымаць нашы маразы.

### Маркіз і сын анархіста

Эскадрылля была створаная ў снежні 1942 года з французскіх добраахвотнікаў — лётчыкаў і механікаў. Хросным бацькам «Нармандыі» стаў капітан Альбер Мірлес, сын меншавіка-эмігранта, у той час — начальнік «Другога бюро» ВПС «Змагарная Францыя». Курыраваў стварэнне «Нармандыі» генерал Пецi — начальнік Генеральнага штаба, што прытрымліваўся камуністычных поглядаў і знаходзіўся ў Маскве. А вось першым камандзірам «Нармандыі» быў маёр Жазэф Пулікен. У 1920 годзе ён нават удзельнічаў у інтэрвенцыі ў савецкую Расію.

Наогул, сярод французскіх добраахвотнікаў апынуліся людзі самага рознага паходжання і перакананняў. Напрыклад, маркіз дэ Панж і вiконт Ралан Д'Івуа дэ ла Пуап. І выхадцы з рабочых сем'яў — Марсэль Лефеўр і Альбер Марсэль. Былі ў эскадрыллі і выхадцы з нашага рэгіёну.

Малодшы лейтэнант Канстанцін Фельдзер нарадзіўся ў заможнай габрэйскай сям'і, якая займалася прадпрымальніцтвам ва Украіне і Беларусі. Дзед будучага пілота Лявонцій Фельдзер атрымаў замову на запуск трамвая ў Беластоку Гродзенскай губерні і падаваў адпаведную заяўку на пуск першага трамвая ў Віцебску. Канстанцін Фельдзер служыў у ВПС Францыі з 1929 года, ужо ў 1940 годзе ў небе над Францыяй збіў нямецкі знішчальнік.

Пасля капітуляцыі Францыі Фельдзер разам з французскімі і польскімі пілотамі збег у Афрыку, каб працягнуць змаганне. Але пасля караблекрушэння трапіў да франкістаў у Іспанію. Зноў паспрабаваў прабрацца на афрыканскі кантынент, за што аказаўся на катарзе. Выйшаў на волю — і зноў турма. Пасля вызвалення саюзнікамі Туніса Канстанцін Фельдзер уступіў у войскі «Змагарнай Францыі», а потым паехаў добраахвотнікам у эскадрыллю «Нармандыя». Нягледзячы на тое, што ў СССР яго сваякі страцілі вялікія грошы.

Не менш каларытную біяграфію меў і Ігар Эйхенбаум. Яго бацька, Усевалад Волін-Эйхенбаум, быў адным з лідараў анархісцкага руху ў Расійскай імперыі і галоўным ідэолагам паўстанцкай арміі бацькі Махно. Пачатак Другой сусветнай вайны Ігар Эйхенбаум сустрэў механікам на Мадагаскары. Капітуляцыю Францыі не прыняў, быў арыштаваны. Але ён збег — угнаў з таварышам старэнькі самалёт. Абодва ўцекачы не ўмелі пілатаваць, але ім усё ж удалося пераляцець у Джыбуці. Адсюль ён праз Тэгеран выправіўся ў «Нармандыю».

У Маскве сустрэўся са сваім дзядзькам, прафесарам літаратуры Барысам Эйхенбаумам. У палку Ігар Эйхенбаум займаўся перакладам баявых інструкцый на французскую мову. І менавіта Эйхенбаум пачаў весці летапіс палка «Нармандыя—Нёман».

Усяго ў «Нармандыі» служылі не менш за дзясятак пілотаў і перакладчыкаў з сем'яў дарэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных эмігрантаў.

### На Заходнім фронце — перамены

На ўзбраенне эскадрыллі паступілі знішчальнікі «Як-1» — самыя сучасныя на той час, манеўраныя і хуткасныя баявыя машыны з кулямётна-гарматным узбраеннем. У якасці рухавікоў на «Яках» стаялі мадэрнізаваныя маторы «іспана-сюіза», вытворчасці СССР па французскай ліцэнзіі. Насы французскіх «Якаў» былі размаляваныя ў колеры нацыянальнага трыкалора. Акрамя таго, пілоты малявалі на машынах асабістыя эмблемы: ад партрэта Рабесп'ера да акулавых пашчаў ды мульцяшнага качаняці Дональда Дака. А вось







намалявааць сімвал Нармандыі, Латарынгскі крыж, ім не дазволілі — занадта вялікая была верагоднасць пераблытаць яго з нямецкімі апазнавальнымі знакамі.

Пілоты «Нармандыі» хутка асвоілі савецкія знішчальнікі. Але французы, вядомыя гурманы, з цяжкасцю прывыкалі да грачанай кашы. І нават скардзіліся на дрэннае харчаванне Міхаілу Калініну. Зрэшты, яны таксама былі незадаволеныя харчаваннем і ў Англіі.

Затое, у адрозненне ад грэчкі, французы даволі хутка асвоілі сумесныя застоллі з савецкімі пілотамі і рускай гарэлкай. 1 студзеня новага, 1943-га года, яны вельмі бурліва сустрэлі ў кампаніі Іллі Эрэнбурга. Капітан Альбер Мірлес быў аднакласнікам яго дачкі па парыжскай школе.

Асвоіўшы савецкія машыны, французы сталі рвацца ў бой. І неўзабаве яны былі перакінутыя на Заходні фронт, наступаць у напрамку Беларусі. Вясной 1943 года эскадрылля «Нармандыя» прыступіла да першых баявых вылетаў. Французскія знішчальнікі сталі суправаджаць пікіруючыя бамбавікі Пе-2, што наносілі ўдары па нямецкіх войсках у раёне Смаленска і Віцебска. У красавіку 1943 года французы збілі два нямецкія «Фокеры». Але ўжо ў наступным баі, выправіўшыся ў «свабоднае паляванне», страцілі трох сваіх таварышаў. Згодна са спецыяльным загадам камандавання Вермахта, лётчыкі «Нармандыі» ў выпадку палону разглядаліся як «злачынцы» і падлягалі расстрэлу, а іх сем'і — зняволенню ў канцлагер.

Савецкае камандаванне вельмі ўстрывожылася стратамі сярод французаў. І перакінула «Нармандыю» ад бамбавікоў у 303-ю авіяцыйную дывізію, замацаваўшы яе за 18-м гвардзейскім знішчальным палком.

У гэтым палку служыў капітан Васіль Сярогін. У баі ён адрозніваўся нязменнай адвагай, а ў вольны час — вясёлым характарам і прыхільнасцю да спеваў. Відавочна, гэта асабліва імпанавала жыццялюбным пілотам з сонечнай Францыі. Таму сумесныя вечарынкі ў вольныя ад баявой працы гадзіны былі не рэдкасцю. Выпадак, паказаны ў фільме «Нармандыя—Нёман» (1960), сапраўды меў месца — французскім пілотам вельмі спадабалася выкананая Сярогіным песня пра Таццяну. Пасля чаго яны так і сталі называць яго — «капітан Таццяна».

**Вельмі часта французы неслі страты з-за свайго індывідуалізму і несуцішнага тэмпераменту — нібы сярэднявечныя рыцары, яны лёгка пакідалі шэрагі ў пагоні за праціўнікам. Савецкае камандаванне доўга не магло прывучыць іх дзейнічаць калектыўна**

### «Нармандыя» ў беларускім небе

Улетку 1943 года «Нармандыя» была пераўтвораная ў полк і ваявала на Курскай дузе. З баявога вылету не вярнуўся другі камандзір эскадрыллі маёр Жан Цюлян. У чэрвені 1943-га лейтэнант Альбер Марсэль збіў нямецкі самалёт-разведчык «Фокевульф-189» («Рама»), што лятаў на вялікіх вышынях і прадстаўляў цяжкую і небяспечную мэту для знішчальнікаў.

Пасля Курскай бітвы эскадрылля «Нармандыя» прымала ўдзел у баях на подступах да Беларусі. Асабліва цяжкія паветраныя сутычкі разгарнуліся пад Ельняй. З 12 пілотаў, якія прыбылі ў эскадрыллю ў складзе 2-й групы папаўнення, 8 чалавек загінулі ўжо летам-восенню 1943 года. 13 кастрычніка ля Горак быў збіты самалёт Марыса Бона, які прыбыў у «Нармандыю» з Мадагаскара. Марыс Бон стаў першым французскім лётчыкам, які загінуў на беларускай зямлі. Ён быў пахаваны сялянамі ў брацкай магіле каля вёскі Стэфанава Магілёўскай вобласці.

Вельмі часта французы неслі страты з-за свайго індывідуалізму і несуцішнага тэмпераменту — нібы сярэднявечныя рыцары, яны лёгка пакідалі шэрагі ў пагоні за праціўнікам. Савецкае камандаванне доўга не магло прывучыць іх дзейнічаць калектыўна. Але ў сваёй адчайнай манеры весці бой французскія пілоты збівалі і шмат нямецкіх самалётаў.

У кастрычніку 1943 года французскія лётчыкі разам з 18-м гвардзейскім знішчальным палком прыкрывалі Войска Польскае, што наступала на фашыстаў у раёне беларускага мястэчка Леніна. Незадоўга да гэтага кіраўнік французскай ваеннай місіі Альбер Мірлес прысутнічаў на прысязе 1-й польскай дывізіі Тадэвуша Касцюшкі, і ў яго гонар палякі, пасля выканання «Шчэ Польска не згінела...», заспявалі «Марсельезу».

# французскія пілоты ў баях за Беларусь

У небе над Леніна шэсць савецкіх і столькі ж французскіх самалётаў сутыкнуліся з паўсотняй нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў і знішчальнікаў. Французы закруцілі з нямецкім прыкрыццём смяротную «карусель». А савецкія «Які» тым часам пачалі метадычна расстрэльваць варожыя «юнкерсы». Шэсць нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў былі знішчаныя, два з іх — «капітанам Таццянай», Васілём Сярогіным.

У гэты час было вырашана замяніць усіх французскіх механікаў на савецкіх. Чаму? Існуе версія, што французскі тэхнічны персанал трымалі на галодным пайку і прымушалі днём і ноччу працаваць на марозе. Адзін раз французскія механікі нават з'елі ката, які жыў у лётнай сталовай. У іншы раз, калі французы нарвалі дзьмухаўцоў і пачалі есці з іх салату, спалоханыя буфетчыцы вырашылі, што няшчасныя замежнікі з'ехалі з глузду, і выклікалі лекара.

Але справа была нават не ў тым, што механікі, у адрозненне ад баявых пілотаў, лічыліся тылавымі службоўцамі і атрымлівалі менш забеспячэння. Галоўнае было ў нязвыклай ежы і ў халодным клімаце. Плюс, не ўсе французы адрозніваліся дысцыплінай. Адзін з механікаў, злоўлены ў самаволцы ў мясцовай дзяўчыны, пры гэтым роў: «Таварышы! Французскія буржуі агаварылі камуніста!» Адзін раз група механікаў, разгортваючы хвост самалёта на «рулежку», своечасова не адпусцілі апярэнне і ўзляцела ў паветра разам з «Якам». На шчасце, яны ўпалі ў балота і абышліся лёгкім спалохам.

А Чырвоная Армія рыхтавалася да наступу. 28 траўня самалёт камандзіра эскадрыллі «Шэрбур» Марсэль Лефеўр, які здзейсніў разведвальны палёт над Віцебскам, атрымаў пашкоджанні. Марсэль дацягнуў да аэрадрома і змог пасадзіць самалёт, але з кабіны вываліўся, ахоплены полымем. Нягледзячы на тое, што мужны лётчык быў дастаўлены да лепшых лекараў у Маскву, выратаваць яго жыццё не ўдалося. Пасмяротна старшаму лейтэнанту Марсэлю Лефеўру было нададзена званне Героя Савецкага Саюза.

23 чэрвеня пачалася аперацыя «Баграціён» па вызваленні Беларусі. Толькі за адзін дзень, 26 чэрвеня, «Нармандыя» здзейсніла 73 баявыя вылеты — збіла 8 нямецкіх самалётаў і страціла аднаго пілота. 30 чэрвеня лейтэнант Бруна дэ Цьеры дэ Фальтан, са шляхецкай сям'і, быў падбіты і вымушаны быў пайсці на аварыйную пасадку. Затым ён разам з механікам Сяргеем Астахавым на навучальным двухмесным «Як-7» зноў вярнуўся да падбітага самалёта, але адрамантаваць яго не ўдалося. На зваротным шляху яны зноў былі збітыя, і здзейснілі пасадку на савецкіх пазіцыях у Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці. Смяротна параненыя дэ Фальтан і Астахаў памерлі на руках салдат-артылерыстаў.

У баі над Барысавам знік без вестак пілот Жак Гастон. Падчас баёў за Беларусь адбыўся яшчэ адзін поўны трагізму выпадак, пасля паказаны ў фільме «Нармандыя—Нёман». Пры пералёце на новы аэрадром Марыс дэ Сейн вёз у грузавым адсеку «Як-9» свайго механіка Уладзіміра Белазуба. Але здарылася аварыя, і ад пароў бензіну ў кабіне пілот аслеп. Тым не менш француз адмовіўся выканаць каманду — пакінуць асуджаны на крах самалёт, паколькі ў савецкага механіка парашуту не было. Да апошняга французскі арыстакрат спрабаваў выратаваць савецкага селяніна, пакуль самалёт не разбіўся. Дэ Сейн і Белазубы былі пахаваныя ў адной магіле. Капітан Марыс дэ Сейн удзельнічаў у паветраных баях над Віцебскам, Оршай, Барысавам і Мінскам.

> **У адрозненне ад многіх французскіх авіяцыйных частак, гэты славуты полк пасля вайны не быў расфармаваны. Пачынаючы з 1990-х гадоў эскадрыллі «Нармандыя—Нёман» давялося яшчэ паваяваць. «Нармандыя» пабывала ў Руандзе, Югаславіі, Кот-д'Івуары, Чадзе, Судане, ЦАР, Малі...**

3 ліпеня быў вызвалены Мінск. 24 жніўня ў полк «Нармандыя» прыйшла вестка аб вызваленні саюзнікамі Парыжа. Уся 1-я паветраная армія і ўсе войскі на гэтым участку 3-га Беларускага фронту ўсю ноч святкавалі гэтую перамогу, асвятляючы мясцовасць залпамі салютаў.

Далей французскіх лётчыкаў чакалі цяжкія баі ў Прыбалтыцы. Менавіта «Нармандыя—Нёман» у кастрычніку 1944 года, першая з усёй французскай арміі, уступіла на нямецкую зямлю — ва Усходняй Прусіі. Тут быў збіты Канстанцін Фельдзер, які, пасля прызямлення з парашутам, трапіў у нямецкі канцлагер...

28 лістапада 1944 года палку было нададзена ганаровае найменне «Нёманскі». З таго часу ён і стаў называцца — «Нармандыя—Нёман».

Французы карысталіся вялікім поспехам у нашых жанчын. У Марсэля Альбера, будучага Героя Савецкага Саюза, быў раман з Нінай Гарчаковай са штаба 301-й авіядывізіі. Але калі француз пачаў збірацца дадому ў адпачынак, нічога не кажучы цяжарнай сяброўцы пра яе далейшы лёс, яна вырашыла, што яе кідаюць. І застрэлілася. Гэты эпізод павінен быў увайсці ў фільм «Нармандыя—Нёман», але з-за пратэстаў ветэранаў палка быў выкраслены. Толькі адзін пілот, Аляксандр Ларан, павёз з сабой у Францыю «савецкую» жонку.

12 красавіка 1945 года «Нармандыя—Нёман» збіла свой апошні самалёт. Пілот Жорж Анры ў паветраным паядынку перамог знакамітага нямецкага аса Гюнтэра Шака з 51-й знішчальнай эскадры «Мельдэрс», на рахунку якога было 174 самалёты саюзнікаў. Але па вяртанні на аэрадром Анры быў забіты аскепкам нямецкага снарада. 30 красавіка ў полк вярнуўся неверагодна ўдачлівы Канстанцін Фельдзер, які здолеў збегчы з нацысцкага канцлагера.

9 траўня на ўсходнепрускім аэрадроме Альтхоў пілоты «Нармандыі» даведаліся аб капітуляцыі Германіі.

### Віконт Савецкага Саюза

У чэрвені 1945 года полк пачаў вяртацца ў Францыю. Вылецелі на сваіх баявых «Яках», якія савецкае камандаванне падаравала французам. У пералёце іх суправаджаў Васіль Сярогін. На ўрачыстым абедзе ў гонар палка «Нармандыя—Нёман» яго пасадзілі насупраць Шарля дэ Голя, на крэсле з шыльдачкай «Капітан Таццяна».

Савецкі ўрад спісаў пазыкі за заробкі і забеспячэнне французскіх пілотаў і механікаў. Сем'ям усіх загінулых пілотаў была выплачаная кампенсацыя. А іх было нямала — 42 адважныя французы аддалі свае жыцці ў жорсткіх баях на Усходнім фронце. Амаль палова ўсяго асабовага складу палка «Нармандыя—Нёман» загінула «за нашу і вашу свабоду». Чацвёра «нармандцаў» атрымалі Залатую Зорку Героя. Сярод іх быў Ралан дэ ла Пуап: відавочна, першы віконт — Герой Савецкага Саюза.

А вось капітану Васілю Сярогіну гэтую ўзнагароду далі не адразу, хоць ён і быў да яе прадстаўлены. Нейкі высокі начальнік на вечарыне па-хамску павёў сябе з дзяўчатамі з аэрадромнага абслугоўвання, Сярогін заступіўся — у выніку яго ўзнагароджанне не зацвердзілі. У 1947 годзе Сярогін звярнуўся з просьбай разгледзець гэтую справу асабіста да Васіля Сталіна, сына ўсёмагутнага генеральнага сакратара. 23 лютага 1948-га з'явіўся Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб прысваенні Сярогіну гэтай вышэйшай узнагароды.

У 1958 годзе Васіль Сярогін выйшаў у запас у званні палкоўніка, стаў працаваць у Гомелі на фабрыцы «Труд» — простым загадчыкам склада. Пасяліўся побач з працай, на вуліцы Партовай, адбудаванай толькі да пачатку 1960-х гадоў на месцы пасляваенных руін. Стаў прататыпам героя і кансультантам кінафільма «Нармандыя—Нёман». Галоўным жа кансультантам выступаў сын паплечніка бацькі Махно Ігар Эйхенбаум, які ўзначальваў асацыяцыю ветэранаў палка.

«Капітана Таццяну» ў 1968 годзе на навагодняй праграме па ТБ чамусьці назвалі «Сяргеевым». Васіль Сярогін палічыў, што гэта зрабілі наўмысна, каб не згадваць пра яго аднафамільца, лётчыка Уладзіміра Сярогіна, у палёце з якім загінуў Юрый Гагарын. З тых часоў «капітан Таццяна» стаў адмаўляцца выступаць на тэлебачанні, і з-за гэтага, як кажуць, не трапіў у кнігу Герояў Савецкага Саюза Беларусі. Праблемы сталі пераследаваць і яго сям'ю. У героя памерла жонка, а затым і сын — ліквідатар аварыі на ЧАЭС. Потым з жыцця пайшлі яшчэ два сыны. У 1990-х у Гомелі ўнук героя, які служыў у АМАПе, загінуў у перастрэлцы з кілерам.

Васіль Сярогін памёр у жніўні 1996 года. Мэру Парыжа, ганаровым грамадзянінам якога з'яўляўся «капітан Таццяна», паведамілі пра яго смерць занадта позна. Узнагароды героя на пахаванні не неслі — яны зніклі. Ліхія 90-я гады апынуліся горшымі за вайну...

* * *

Што да палка «Нармандыя—Нёман», то, у адрозненне ад многіх іншых французскіх авіяцыйных частак, гэты славуты полк пасля вайны не быў расфармаваны. Пачынаючы з тых жа 1990-х гадоў эскадрыллі «Нармандыя—Нёман» давялося яшчэ паваяваць. «Нармандыя» пабывала ў Руандзе, Югаславіі, Кот-д'Івуары, Чадзе, Судане, ЦАР, Малі. У 2009 годзе эскадрылля была пераведзеная «ў спячы рэжым». Але ў 2011 годзе полк «Нармандыя—Нёман» быў зноў адноўлены.

Улетку 2018 года француз Жонас Берта здзейсніў велапрабег у гонар палка «Нармандыя—Нёман». Былы вайсковец Замежнага легіёну стартаваў у горадзе Мон-дэ-Марсан, дзе зараз стаіць «Нармандыя—Нёман», і праз Брэст заехаў у Беларусь. Жонас Берта лічыць, што вельмі важна захаваць памяць пра гераічны шлях гэтага палка. І пра беларуска-французскае баявое братэрства, што стала складовай часткай барацьбы ўсіх народаў супраць нацысцкага варварства.

# «Літва! Мая айчына!»

**Прысвячаецца 220-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча**



**Па гарызанталі:** 1. «О навагрудскі ... — мой родны дом». З верша «Бульба» выдатнага польскага паэта беларускага паходжання Адама Міцкевіча, які нарадзіўся 220 гадоў таму, 24 снежня 1798 года, на Навагрудчыне, на хутары Завоссе. Паэт лічыў сваёй радзімай Літву (сённяшнюю Беларусь), а сябе называў ліцвінам. 4. Жорж ..., Віктор Гюго. Вядомыя французскія пісьменнікі, з якімі Адам Міцкевіч пасябраваў, калі жыў у Парыжы; у гэтым горадзе ён вянчаўся з Цалінай, пазнаёміўся з Фрыдэрыкам Шапэнам, наведаў каралеву Францыі Гартэнзію. 6. Марыля .... Жанчына, каханне да якой паэт пранёс праз усё жыццё. Яна натхніла Адама Міцкевіча на напісанне лепшых лірычных вершаў. 9. Цыкл мастацкіх твораў аднаго жанру. 10. «З шаблямі слонімцы валяць// і меткія лучнікі з Ліды». З ранняй паэмы Адама Міцкевіча «..., князь Навагрудка». 11. Тытул вышэйшага дваранства ў Іспаніі да 1931 года. 14. «Літва! Мая ...!// Ты як здароўе». З паэмы «Пан Тадэвуш», якую паэт апублікаваў у Парыжы. 15. Уладальнік вялікіх маёнткаў. 18. Калі напярэдадні Калядаў ... зорнае — будуць несціся куры (народная прыкмета.). 19. Міжнародны дзень ... ; свята, якое адзначаецца 28 снежня. 20. Урачысты верш. 21. Гурба, намеценая ветрам. 23. «Вось ён, ..., магутны веліч,// Вецер-хлопчык гне ажыну.// Колісь тут Адам Міцкевіч// Сустракаў сваю Гражыну». З верша Язэпа Пушчы «У Шчорсах». 24. Старабеларуская назва снежня, якая сустракаецца ў творах Францыска Скарыны. 25. «Адсюль былі бачны ... Навагрудка — // У той час Літоўскай сталіцы». З балады Адама Міцкевіча «Свіцязь». 26. «Гурбы снегу і ў сэрцы// мне ... намяла». З верша Ларысы Геніюш «Завея».

**Па вертыкалі:** 1. «Дабранач! Летуценняў райская ...». З верша Адама Міцкевіча «Дабранач». 2. Паўвостраў, куды ў 1825 годзе здзейсніў паэт падарожжа, у выніку якога з'явіўся яго зборнік «... санеты». 3. «Нёман, ... мая ! Вечна імклівыя хвалі». З верша Адама Міцкевіча «Да Нёмана». 5. Паэма Адама Міцкевіча, у якой ён, як прататыпы, намаляваў вобразы сваіх сяброў: Яна Чачота, Тамаша Зана, Адольфа Янушкевіча — змагароў з царскай Расіяй; яны, як і Адам Міцкевіч, зведалі зняволенне, высылкі. 7. «... з хлопцам у бездані тоне,// Вецер галосіць панура». З балады паэта «Свіцязянка». 8. «Конрад ...». Паэма; яе паэт прысвяціў І. Залескай, якая кахала яго. 12. «Гэй, знікні, суму ...!// Жывём мы толькі раз». З верша «Песні філарэтаў». 13. Вавельскі .... Буйны палац у Кракаве, дзе ў адной з нішаў знаходзяцца астанкі вялікага паэта, патрыёта нашай зямлі. 16. «... народаў». Газета, якую заснаваў у Парыжы Адам Міцкевіч у 1849 годзе. 17. Малады ... — палявы вецер: бяжыць і гудзіць (прыказка). 21. Памятны ... . Помнік у выглядзе каменя з радкамі з балады Адама Міцкевіча «Свіцязь»: ён знаходзіцца на беразе апетага паэтам возера Свіцязь. 22. У снежні мароз і ... вышай хаты — год будзе багаты (народная прыкмета).

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**







**Адказы на крыжаванку «Галеча вядзе да рэвалюцыі!» (НЧ №40 ад 2 лістапада):**

**Па гарызанталі:** 2. Свабода. 6. Рай. 7. Эра. 8. Пераварот. 9. Космас. 10. Пальцы. 13. Іглу. 15. Альт. 17. Ідылія. 20. Галеча. 22. Рэвалюцыя. 23. Дно. 24. Яць. 25. Лістота.

**Па вертыкалі:** 1. Пагром. 2. Схема. 3. Бювар. 4. Асоба. 5. Трыццаць. 11. Лекар. 12. Бусел. 14. Грудзень. 16. Шчасце. 18. Ідэал . 19. Молат. 21. Ажына.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1336

Падпісана да друку 21.12.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.